

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 590 Сакавік, 2012 г.
Год выданьня 63

## Шаноўныя чытачы!

Гэты выпуск газэты па тэхнічных прычынах выходзіць здвоеным за сакавік-красавік. Два гэтыя месяцы былі асабліва плённымі ў беларускім жыцьці. На гэты час прыпалі сьвяты 25 Сакавіка, Вялікдзень, Раданіца, чарговая гадавіна Чарнобальскай трагедыі, надыход вясны і дзень гумару - 1 красавіка, таксама шмат падзеяў у грамадзкім і палітычным жыцьці. На жаль, не абыйшлося і бяз стратаў, адыйшлі ў вечнасьць вядомыя і сьветлыя асобы ў беларускім грамадзтве на Бацькаўшчыне і ў замежжы. Пра ўсё гэта мы згадалі на старонках газэты.

Вялікодныя дні прынесьлі добрыя навіны з Беларусі, з турмы вызвалены два палітычныя вязьні – Андрэй Саньнікаў і Зьміцер Бандарэнка. Спадзяемся, што гэта толькі пачатак і на волі будуць і ўсе астатнія палітзьняволеныя. Хаця пакуль не выглядае, што рэжым зьбіраецца мяняць сваю палітыку і нас чакае яшчэ доўгае змаганьне за волю.

Аднак вясна, у прыродзе і ў нашых душах, дзе разам з новым жыцьцёвым цыклям нараджаюцца і новыя надзеі на лепшае.

Жадаем нашым чытачам і аўтарам посьпехаў у справах і новых сустрэчаў на старонках газэты!

*Рэдакцыя*

# Дзень Волі - 2012



## Сьвята ў Нью-Ёрку



Беларуская грамада ў Нью-Ёрку адзначала 94-я ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ў грамадзкім цэнтры пры Катэдральным саборы БАПЦ сьв. Кірылы Тураўскага на Атлянык Авэню 401 у Брукліне. Гэтае мейсца ёсьць утульным беларускім куточкам, дзе кожную нядзелю зьбіраюцца тыя, каму хочацца пабыць сярод сваіх людзей, размаўляць на роднай мове, браць удзел у грамадзкім жыцьці. 25 сакавіка ў залі сабралася асабліва шмат людзей, прыехала нават моладзь з Філядэльфіі, з Бостану. Панаваў узьнёслы, сьвяточны настрой, многія былі ў нацыянальных строях.

Раніцаю ў царкве адбылася багаслужба і малебен за Беларусь. Прысутныя маліліся і за палітычных вязьняў, якія пакутуюць у турмах, за жыцьцё Сяргея Каваленкі, які цьвёрда змагаецца з рэжымам і гатовы аддаць сваё жыцьцё ў гэтым змаганьні.

Далей урачыстасьці працягнуліся ў грамадзкай залі, якая была ўпрыгожана ў бел-чырвона-белыя колеры. Сьвята арганізавалі Галоўная ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА), ягоны Бруклінскі аддзел і Парафіяльная рада сабору.

Урачыстая частка імпрэзы была прысьвечаная гісторыі і сучаснай дзейнасьці Рады БНР. Са зьмястоўным і добра прачытаным рэфэратам пра падзеі сакавіка 1918 году ў Беларусі, якія прывялі да абвяшчэньня незалежнасьці, зрабіў сп. Сяргей Пятровіч, сябра Галоўнай управы БАЗА і скарбнік дзейнай Рады БНР. Быў зачытаны Зварот старшыні Рады БНР сп. Івонкі Сурвіллы з нагоды Сьвята. Сп. Сурвілла плянавала ўзяць непасрэдны ўдзел у сьвяткаваньні ў Нью-Ёрку, але не змагла прыехаць з-за атрыманай траўмы.

*Заканчэньне на 2-й бачыне*

# Сьвята ў Нью-Ёрку

*Заканчэньне з 1-й бачыны*

Пра дзейнасьць Рады БНР у эміграцыі распавёў сп. Вячка Станкевіч – намесьнік старшыні Рады БНР. З прывітальнымі словамі і віншаваньнямі выступілі старшыня Галоўнай управы БАЗА сп-ня Ганна Сурмач і старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі – БНФ сп. Зянон Пазьняк. Прысутныя цёпла ўспрынялі атрыманыя віншаваньні ад беларускіх суполак з іншых краінаў.

З асаблівай увагаю было заслухана выступленьне сп-ні Валянціны Трыгубовіч, якая выступіў былы кандыдат у прэзыдэнты на выбарах 2010 году паэт і грамадзкі дзеяч Уладзімір Някляеў. Ягоную пазыцыю ў адмысловым звароце падтрымаў цэлы шэраг вядомых беларусаў з Бацькаўшчыны. Удзельнікі сьвяточнай імпрэзы адназначна выказалі сваю падтрымку дзейнай Радзе БНР і прынялі па гэтаму пытаньню адмысловую Рэзалюцыю. Таксама на заклік Старшыні Рады БНР сп-ні Івонкі Сурвіллы, які зачытаў скарбнік Сяргей Пятровіч, прысутныя сабралі фінансавыя сродкі на падтрымку дзейнасьці Рады, якія традыцыйна зьбіраюцца



закранула пытаньне пра сёньняшнюю ролю Рады БНР. Яна згадала пра тое, як Рада не прызнавалася ворагамі беларушчыны раней, і пра тое, як гэта спрабуюць рабіць і сёньня. Выступленьне Ганса Георга Віка з прапановаю стварыць нейкі новы ўрад у замежжы зьяўляецца спробаю не прызнаваць існуючага да сёньня легітымнага ўрада, які ёсьць дзейная Рада БНР. Гэты выступ сп.Віка выклікаў цьвёрдыя пратэсты. Першым даў адпор сп. Віку вядомы дзеяч беларускага замежжа д-р Янка Запруднік. У падтрымку Рады БНР сьледам штогод пад лёзунгам "Дар Сакавіка".

Эмацыйны настрой ставрала канцэртная частка імпрэзы. Яе асабліва ўпрыгожылі беларускія мэлёдыі ў прафэсійным выкананьні піяністкі Яўгеніі Леў і сьпявачкі Ірыны Мозылевай. Вершы беларускіх паэтаў чыталі малодшыя госьці – Паўлінка Падлеская і Лявон Дудараў.

Завяршылася Сьвята агульным сьпевам нашага нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" і воклічамі "Жыве Беларусь!"

*Ганна Сурмач*




# 25 Сакавіка ў Беларусі




25 сакавіка ў Менску і рэгіёнах прайшлі акцыі з нагоды 94-х угодкаў абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі. Паводле дадзеных праваабарончага цэнтру «Вясна», у гэты дзень было затрымана больш за 70 чалавек у Менску і рэгіёнах.

# Дзень волі ў Гаазе

25 сакавіка па ініцыятыве беларусаў Галяндыі прайшла акцыя салідарнасьці з рэпрэсаванымі беларусамі на Бацькаўшчыне. Месцам правядзеньня стала плошча перад будынкам Міжнароднага суду.

У гэты час сябры партыі «Маладыя дэмакраты Галяндыі» правялі акцыю пратэсту супроць сьмяротнага пакараньня ў Беларусі на плошчы перад будынкам парлямэнту.

Потым усе разам сустрэліся каля беларускай амбасады і наклеілі на сьцены постары з пратэстам супроць сьмяротнага пакараньня.




# Сьвяткуюць беларусы Прагі

94-я ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці БНР у Празе адзначылі набажэнствам, урачыстым паседжаньнем, прэзэнтацыяй новай кнігі Ўладзімера Арлова, канцэртам гурту "Босае Сонца" і фуршэтам.



# Сакавіковыя сьвяты ў Вільні



Цягам цэлага тыдню ў Вільні праходзілі мерапрыемствы, зьвязаныя з Беларусамі й беларускасьцю.

19 сакавіка адбылося ўрачыстае адкрыцьцё «Беларускага тыдню», які пачынаўся з выставы беларускай мастачкі Тацьцяны Дзянісавай з сымбалічнай назвай «Сны й рэальнасьць». Дзеяньне адбывалася ў будынку Віленскага гарадзкога самакіраваньня. На адкрыцьці прысутнічалі мэр Вільні Артурас Зуокас, старшыня Камітэту па замежных справах Літвы Эмануэліс Зінгерыс, амбасадар Літвы Эдмінас Багдонас, паслы Польскай й Чэскай амбасадаў, праф. Станіслаў Шушкевіч, а таксама прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў.

21 сакавіка ў Літоўскім сойме прайшла сустрэча беларускіх і літоўскіх дзеячоў і прадстаўнікоў розных арганізацыяў. На ёй прысутнічалі: Эмануэліс Зінгерыс, Саўлюс Печалюнас, Стасіс Каўшыніс, Аляксандар Мілінкевіч, Станіслаў Шушкевіч, Алег Мяцеліца, Хведар Нюнька, Валянцін Голубеў, прадстаўніца Польскай амбасады. Былі абмеркаваныя пытаньні, зьвязаныя з праблемамі ў Беларусі, а таксама шляхі ўзаемаадносінаў паміж Беларусьсю й Эўразьвязам. У выніку была прынята рэзалюцыя, якая пазьней будзе прадстаўлена ў Радзе Эўропы. Асноўнымі яе пунктамі былі наступныя: узмацьненьне санкцыяў супраць Аляксандра Лукашэнкі й ягонага бізнэс-атачэньня; запыт на адмену правядзеньня чэмпіянату сьвету па хакеі ў Беларусі; патрабаваньне ад рэжыму ўвядзеньня мараторыю на сьмяротнае пакараньне. Асобна агаворвалася магчымасьць зьніжэньня коштаў візаў для беларусаў у краіны Эўропы.

22 сакавіка беларусы ўшаноўвалі памяць Кастуся Каліноўскага. Віленскія беларусы і госьці сабраліся на Лукішскім пляцы. Яны прынесьлі кветкі й зьнічкі, якія пасьля былі пакладзены на помнік нашаму герою. У паветры лунаді бел-чырвона-белыя сьцягі. Падчас выступу Хведар Нюнька падкрэсліў, што была заплянавана рэканструкцыя Лукішскага пляцу, на якую былі заяўленыя сем праектаў. Але ні адзін зь іх не прадугледжваў захаваньня крыжа. Сябры ТБК зьвярнуліся да прэм'ер-міністра Андруса Кубілюса з просьбаю захаваць яго. Таму рэканструкцыю адклалі да таго часу, пакуль ня зьявяцца грошы на захаваньне помніка. Падчас акцыі выступалі Кірыла Атаманчык – прадстаўнік студэнцкага аб'яднаньня StudAliance, Валянцін Голубеў – дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі 12-га і 13-га склікаiньня, адзін з аўтараў першай Канстытуцыі незалежнай Рэспублікі Беларусь, доктар гістарычных навук, Алесь Пушкін – вядомы беларускі мастак. Пасьля некаторыя рушылі на гару Гедыміна, дзе, як мяркуецца, пахаваны Кастусь Каліноўскі.

23 сакавіка ў Літоўскім Цэнтральным Дзяржаўным архіве адбылася выстава «Невядомая Беларуская Народная Рэспубліка». На ёй былі прадстаўлены арыгіналы невядомых раней дакумэнтаў і артыкулаў, якія засьведчылі існаваньне й дзейнасьць інстытуцыяў новай дзяржавы. У той жа дзень аднайменная выстава адбылася ў Эўрапейскім Гуманітарным Унівэрсітэце, але прадстаўлены на ёй былі копіі дакумэнтаў. Мерапрыемства адзначылася тым, што на ім адбылася тэатралізаваная дзея – у ролі Антона Луцкевіча выступіў Павал Клюеў, які пасьля сваёй прамовы падпісваў жадаючым сымбалічныя пашпарты Беларускай Народнай Рэспублікі.

24 сакавіка ў віленскай ратушы выступаў хор «Унія», які выконваў ня толькі беларускія й клясычныя творы, але й кампазыцыі рок-гуртоў, напрыклад, Бітлз. Перад канцэртам слова меў Хведар Нюнька, які зачытаў Зварот Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонкі Сурвіллы. Акрамя віншаваньня беларусаў са сьвятам Дня Волі, Зварот зьмяшчаў словы, прысьвечаныя пакутніку лукашыцскага рэжыму Сяргею Каваленку.

25 сакавіка шмат людзей сабралася на могілках Росы, дзе яны ўшаноўвалі памяць выбітных людзей Беларусі – Антона й Івана Луцкевічаў, паехалі на Еўфрасіньеўскія праваслаўныя могілкі, дзе ўшаноўвалі памяць Тодара Вернікоўскага - былога міністра БНР, магіла якога была выпадкова знойдзена Людвікай Кардзіс.

Пазьней многія прынялі ўдзел у аўтапрабегу па Вільні з нацыянальнымі сьцягамі Літвы й Беларусі. Пасьля праездкі па горадзе, калёна з 15 аўтамабіляў рушыла да літоўска-беларускай мяжы.

Увечары адбылася сьвяточная вячэра, на якой сабраліся прадстаўнікі розных арганізацыяў, неабыякавыя да лёсу Беларусі. Усе выказалі задавальненьне праведзеным тыднем, знаходзілася мейсца й для аб'ектыўнай крытыкі. Але самае галоўнае, што ў гэтым годзе арганізацыяй і правядзеньнем сьвята й прымеркаванага да яго Беларускага тыдню займаліся ня толькі сябры Таварыства Беларускай Культуры, ёмісты ўклад зрабілі таксама сябры палітычнага Прадстаўніцтва Беларусі ў Літве.

*Кірыла Калбасьнікаў, Вільня*

# Падвойнае Сьвята ў Лёндане

25 сакавіка сябры Згуртаваньня беларусаў Вялікай Брытаніі (ЗБВБ) адзначылі адразу два Сьвяты – Дзень Волі і 65-ю гадавіну Згуртаваньня. Святочнае мерапрыемства з гэтай нагоды прайшло ў Беларускім доме ў Лёндане.

ЗБВБ зьяўляецца адной з найстарэйшых беларускіх суполак паваеннай хвалі эміграцыі ня толькі на эўрапейскім кантыненце, але бадай што і ва ўсім сьвеце. Працэсы, якія адбываліся ў Згуртаваньні ў розныя часы, уплывалі на жыцьцё ўсёй беларускай грамады ў краіне.

Згуртаваньне годна вытрымала выпрабаваньне часам і сёньня застаецца адной з самых актыўных беларускіх арганізацый у замежжы. Штогод сябры Згуртаваньня арганізуюць святкаваньні беларускіх нацыянальных і традыцыйных сьвятаў, ладзяць вечарыны з удзелам знакамітых людзей з Беларусі, заўжды актыўна рэагуюць на ўсе падзеі, якія адбываюцца на Бацькаўшчыне, распаўсюджваюць інфармацыю пра Беларусь у брытанскім грамадстве.

Жадаем нашым суродзічам і надалей годна прээнтаваць беларускую справу ў Вялікабрытаніі. Посьпехаў вам і духовай моцы на будучыню!

# Сакавік ў Севастопалі




Сябры Суполкі "Пагоня" імя Максіма Багдановіча кожны год урачыста адзначаюць угодкі БНР, дэманструюць грамадзтву Севастопаля беларускую гістарычную сымболіку і сваю рашучую падтрымку апзыцыйным сілам ў Беларусі, якія змагаюцца з дыктатураю. У гэтым годзе суполцы спаўняецца 15 гадоў, і столькі часу лунае над гэтым горадам бел-чырвона-белы сьцяг і "ляціць" наша "Пагоня".

# Дзень Волі ў Вашынгтоне



Да сяброў БАЗА ў Вашынгтоне далучыліся іншыя беларусы, каб разам сьвяткаваць Дзень Волі. Днём 25 сакавіка ўдзельнікі сьвяткаваньня сустрэліся са Станіславам Шушкевічам, кіраўніком Беларусі з 1991 па 1994 гг. У сваёй прамове, сп. Шушкевіч распавёў пра час кіраваньня Беларусьсю перад і пасьля распаду СССР, калі адным з галоўных напрамкаў міжнароднай палітыкі было вывядзеньне ядзернай зброі і наладжваньне міжнародных зносінаў зь іншымі краінамі сьвету. Першыя гады аднаўленай незалежнасьці былі яўным кантрастам да нядаўніх падзеяў, зьвязаных з выездам эўрапейскіх амбасадараў з Беларусі. Сп. Шушкевіч таксама адказаў на пытаньні і выказаў надзею, што палітычная сытуацыя ў Беларусі зьменіцца да лепшага з прыходам новага пакаленьня беларусаў, якія выхоўваюцца ў наш час, з лепшым доступам да інфармацыі.

Сп. Шушкевіч прыехаў у Вашынгтон, каб атрымаць Мэдаль Свабоды ад Фонду ахвяраў камунізму. Таму ўвечары прадстаўнікі БАЗА і беларускай дыяспары ў Акрузе Калюмбія сабраліся каля Мэмарыяла ахвярам камунізму, каб ушанаваць іх памяць. Разам са сп. Шушкевічам прадстаўнікі беларускай дыяспары ўсклалі бел-чырвона-белыя кветкі і запалілі сьвечкі ў гонар Дня Волі і ўсіх беларусаў, якія загінулі падчас камуністычнага кіраваньня. Сп. Шушкевіч, прамовіў да прысутных па-беларуску, а Алеся Кіпель пераклала яго словы прысутным сябрам Цэнтральна- і Ўсходнеэўрапэйскай Кааліцыі. Як і ў мінулыя гады, гэтая падзея адбывалася сумесна з прадстаўнікамі краінаў Балтыі, сяброў Кааліцыі, якія ў гэты самы дзень, 25-га сакавіка, ушаноўваюць памяць дэпартаваных у Сібір. Адпаведна, прадстаўнікі амбасадаў Эстоніі, Латвіі і Летувы і іншыя лідэры Балтыцка-Амерыканскіх суполакў, таксама зрабілі прамовы перад мэмарыялам.

# 25 Сакавіка ў Таронце

Сьвяткаваньне Дня Волі ў Таронце пачалося з вандроўкі. Напярэдадні сьвята сябры Згуртаваньня беларусаў Канады наведалі адну з найстарэйшых актывістак арганізацыі Вольгу Грыцук, якая жыве ў Кінгстане. Госьці прывезьлі спадарыні Вользе бел-чырвона-белыя ружы і павіншавалі яе са сьвятам незалежнасьці. Ва ўспамінах і сяброўскай гаворцы непрыкметна прабеглі некалькі гадзін... Спадарыня Вольга была вельмі ўсьцешаная візытам таронтаўскіх беларусаў і казала, што нават пачала пачувацца нашмат лепей. Доўга стаяла яна на ганку, разьвітваючыся з гасьцямі...

Раніцай у нядзелю 25 сакавіка каля трыццаці чалавек сабраліся ў царкве сьв. Кірылы Тураўскага на сьвяточную багаслужбу. Пасьля набажэнства сьвяткаваньне працягнулася ў грамадзкай залі Беларускага грамадзка-рэлігійнага цэнтру Таронта. Былі зачытаныя віншавальныя лісты ад Івонкі Сурвіллы, Зянона Пазьняка, Хведара Нюнькі, а таксама прывітальныя словы Вольгі Грыцук.






*Сябры ЗБК ў гасьцях у Вольгі Грыцук*
*Фота Юрася Шаўчэнкі*

Пасьля імпрэзы ў беларускім цэнтры група сяброў ЗБК накіравалася да знакамітай таронтаўскай тэлевежы (CN Tower), каб узьняць бел-чырвона-белы сьцяг на самую высокую кропку ў Канадзе. Калі яны ўзьняліся на аглядную пляцоўку тэлевежы і разгарнулі сьцяг, дык нечакана пачулі воклічы "Wolna Białoruś!".

Як высьветлілася, сярод турыстаў на вежы былі музыкі польскага гурта Paula&Karol, якія за два тыдні меліся выступаць у Польшчы на мітынгу салідарнасьці зь Беларусьсю, арганізаваным грамадзкай ініцыятывай "Free Belarus". Сустрэча з польскімі сябрамі дадала беларусам шмат неспадзяванай прыемнасьці. Прыўзьняты сьвяточны настрой панаваў у беларускай грамадзе яшчэ доўга.

*Галоўная ўправа ЗБК*

# Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква

## Архіпастырскае Велікоднае вітаньне

## *Годнаму чэсьці Духавенству і да ўсіх Багалюбных вернікаў беларускага народу*



***Ты, Хрысьце, наша вялікая і сьвятая Пасха, Слова Божае, Мудрасьць і Сіла. (Канон. Песьня 9)***

Дарагія Айцы, Браты і сёстры!

Хрыстос Уваскрос!

Вітаем такімі радаснымі словамі адзін аднаго ў гэтае найвялікшае сьвята праваслаўных хрысьціян – Уваскрасеньне Хрыстовае!

Магутнасьць і сіла словаў Пасхальных Багаслужбаў гучыць для ўсіх нас як бесьперапынная пераможная песьня Славы Божай. Усе заклікаюцца да поўнай і вялікай радасьці ў наступныя некалькі тыдняў Пасхальнага перыяду.

Малітоўныя сьпевы Сьвятой Царквы цяпер радасныя і аптымістычныя. Хрыстос Уваскрос, і дзеці Божыя ўваскрэснуць!

“Нябёсы хай дастойна весяляцца, і хай радуецца зямля, хай увесь сьвет, бачны і нябачны, сьяткуе, бо ўваскрос Хрыстос, наша радасьць вечная.” (Канон. Песьня 1)

“Сёньня мы напоўніліся сьвятлом – неба, зямля і апраметная. Хай усё стварэньне сьвяткуе ўваскрасеньне Хрыста, які нас умацоўвае”. (Канон. Песьня 3.)

“Пекла, дзе твая перамога? Уваскрос Хрыстос - і ты было спустошанае. Уваскрос Хрыстос - і дэманы ўпалі. Уваскрос Хрыстос - і жыцьцё запанавала…” (Слова Яна Залатавуснага на Вялікдзень.)

Праз Божую ласку і Ягоную Крыжовую ахвяру нам дадзены новы стыль жыцьця. Ягоным уваскрасеньнем нам накрэслены шлях адраджэньня і аднаўленьня да сапраўднага і вечнага жыцьця. Прыймаючы Госпада да свайго жыцьця праз Сьвятыя Таінствы Царкоўныя, мы аднаўляем і сваю пакрыўджаную грахом у нас прыроду Божую, набліжаючыся такім чынам да нашага калісьці ўжо персанальнага ўваскрасеньня.

“Ніхто хай не баіцца сьмерці, бо сьмерць Збавіцеля вызваліла нас. Пакаштаваўшы сьмерці, Ён зьнішчыў сьмерць.” (Слова Яна Залатавуснага на Вялікдзень) Сапраўды Хрыстос Ўваскрос!

Любыя Архіпастыры і Пастыры, Браты і Сёстры ў Хрысьце! Зьняволеныя на Бацькаўшчыне ды раскіданыя па ўсім сьвеце дзеці беларускага народу! Сьвятая Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, як Божая ўстанова ў гэтым сьвеце, трымае вас у сваіх малітвах. Трымайцеся і вы Ўваскрэслага Госпада. Молім Бога ў гэты Велікодны час, каб уваскрасіў да жыцця вечнага ўсіх, хто пакутуе сёньня за Бога, бліжняга, Бацькаўшчыну нашу – Беларусь. Молімся за тых, хто і цяпер пакутуе ад сваіх бліжніх, што яшчэ блудзяць у цемры крывадушнасьці, абыякавасьці і бязбожніцтва. Молімся каб Госпад Бог прасьвятліў усіх сьвятлом слаўнага Свайго Ўваскрасеньня.

З найцяплейшымі Пасхальнымі пажаданьнямі Божага ўсім дабраславеньня і любові ў Хрысьце Ўваскрэслым!

*+ Серафім, епіскап Віленскі і Нью-Ёркскі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы*







Сьвяточная служба і асьвячэньне велікодных страваў у Саборы Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Брукліне

# Беларусы Амэрыкі сьвяткуюць Вялікдзень







*Велікодная багаслужба ў беларускай царкве ў Гайленд Парку (Нью Джэрзі).*

# Памолімся за тых, хто цярпіць несправядліва



*У сваім Велікодным звароце Апостальскі візытатар для беларусаў замежжа айцец Аляксандар Надсан зьвярнуўся да тэмы сьмяротнага пакараньня і галадовак пратэсту.*

ДАР ЖЫЦЬЦЯ

*Хрыстос васкрос!... Усюды радасьць,*
*Усё глядзіць сьмялей, сьвятлей;*
*Вялікі Мучанік, здаецца,*
*Абняў усіх ласкаю сваей.*

Гэтыя словы Янкі Купалы выдатна аддаюць радасьць вялікага сьвята, сутнасьць якога, паводле велікодных царкоўных сьпеваў, у тым, што, падобна Майсею, які вывеў абраны народ праз Чырвонае мора з эгіпэцкай няволі да свабоды, Госпад Ісус Хрыстос перавёў усіх нас «ад сьмерці да жыцьця і ад зямлі на неба». Такім чынам Вялікдзень – гэта аднаўленьне ўсяго стварэньня ў Богу праз Ісуса Хрыста. Не дарма сьвятыя айцы называлі яго актам новага тварэньня.

Радасьць вялікага сьвята не павінна, аднак, даць нам забыць, што Велікодную Нядзелю апярэджвала Вялікая Пятніца, калі Госпад Ісус Хрыстос павіс на крыжы, фальшыва абвінавачаны тымі, што ўважалі сябе духоўнымі правадырамі народу, і адданы на сьмерць судзьдзёю, каб дагадзіць абвінаваўцам, хоць ён сам не знайшоў у Ім ніякай віны. Ні судзьдзя, ні абвінаваўцы не падазравалі, што засудзілі на сьмерць Таго, каго магіла не магла ўтрымаць, і хто сказаў пра сябе: «Я – дарога і праўда, і жыцьцё».

Крыжовая сьмерць Хрыста дае нам шмат да развагі над сьмяротным пакараньнем. Жыцьцё – гэта найвялікшы дар Божы, і толькі Бог можа забраць яго ў свой час. Гэта не азначае, што той, хто зрабіў злачынства, не павінен быць пакараны. Але пакараньне павінна быць спалучана зь міласэрнасьцю, каб даць магчымасьць асуджанаму ўсьвядоміць сваё злачынства і пакаяцца. Важна таксама мець на ўвазе тое, што пакараньне сьмерцю ў выпадку памылкі нельга направіць. Хрыстос сказаў: «Не хачу сьмерці грэшніка, але каб ён пакаяўся і меў жыцьцё вечнае», а сваёй сьмерцю на крыжы Ён асудзіў сьмяротнае пакараньне.

Жыцьцё – гэта дар Божы, і таму чалавек ня можа адабраць яго ня толькі іншаму, але і самому сабе, у тым ліку праз галадоўку. Звычайна на гэтае апошняе наважваюцца людзі моцнага характару, якім былі перакрытыя ўсе іншыя шляхі для дасягненьня справядлівасьці. Хацелася б сказаць такім людзям: «Дарагі, схіляюся перад тваёй мужнасьцю і ахвярнасьцю, але ты выбраў ня той шлях. Табе трэба жыць на радасьць тваім блізкім і на карысьць той вялікай ідэі, якой ты адданы. І Бог табе дапаможа».

Сёньня, у гэты сьветлы і радасны дзень будзем прасіць Уваскрэслага Хрыста, каб Ён даў палёгку і сілу духу тым, хто цярпіць несправядліва, і суцяшэньне сем'ям тых, якія пацярпелі страту сваіх дарагіх, а ўсім – надзею лепшай долі для нас і нашай Бацькаўшчыны ў гэтым жыцьці і вечнай радасьці разам зь Ім у будучым.

*а. Аляксандар Надсан, Вялікдзень 2012*



*Вялікдзень у Саўт Рывэры (Нью-Джэрзі)*

*Айцец Міхаіл асьвячае вялікодныя стравы ля беларускай Царквы сьв. Еўфрасіньні. Сёлета споўніцца 40 гадоў ад часу заканчэньня пабудовы царквы рукамі прыхаджанаў у 1972 годзе.*

# Вызваленьне палітвязьняў






Кандыдат у прэзыдэнты на выбарах 2010 году Андрэй Саньнікаў быў вызвалены з віцебскай калёніі 14 красавіка. Яго ўрачыста сустракалі на Прывакзальнай плошчы ў Менску. На пляцоўцы перад галоўным уваходам у вакзал з кветкамі сабралася каля ста прыхільнікаў і паплечнікаў палітыка, праваабаронцы, былыя палітвязьні, іх сваякі, родныя тых, хто працягвае знаходзіцца ў вязьніцах.

Раніцаю 16 красавіка з Магілёўскай калёніі №15 быў вызвалены Зьміцер Бандарэнка, даверaная асоба кандыдата на прэзыдэнта Андрэя Саньнікава, каардынатар «Эўрапейскай Беларусі».

## Лісты да палітвязьняў

Пра наяўнасьць палітычных вязьняў у Беларусі нашым чытачам лішне нагадваць – ведаюць і многія прымаюць удзел у акцыях салідарнасьці, у змаганьні за іх хутчэйшае вызваленьне. Але паказаць стойкасьць і высокі маральны дух зьняволеных я палічыла абавязковым.

Калі беларускія праваабаронча арганізацыі падалі адрасы турмаў і папраўчых калёніяў, куды “запіхнулі” змагароў, апанэнтаў правячага рэжыму, мы (утрох) сталі пасылаць зьняволеным паштоўкі. Асабіста знаёмым пісалі нейкую прыемную драбязу, ніколі ня бачаным людзям – словы знаёмства… Мы ведалі, што першымі гэта будуць чытаць турэмныя цэнзары, таму былі нешматслоўныя. Галоўным жа сэнсам пасланьняў было: мы пра вас ведаем, разумеем, што церпіце бязьвінна, верым, што праўда пераможа.

І вось атрымалі “зваротную сувязь”! (Значыць, нашы Калядныя паштоўкі атрыманыя адрасатамі.) Гэта было такой радасьцю – да сьлёз! Зацытую крыху. Піша Павал Севярынец, які адбывае пакараньне ў вёсцы Куплін Пружанскага раёну. “Дарагія мае, шаноўныя сябры, спадарыні Валянціна й Ала, і спадар Валеры! Перапрашаю за позьні адказ (меў больш за 400 лістоў толькі на Новы год і Раство, хачу адказаць усім)… Цяпер ужо віншую вас з Днём Волі й Дабравешчаньнем! Нягледзячы на цяжкія падзеі вакол, на смутны дух, усё ж веру, што й Воля, і Добрая Вестка прыдуць у гэтую краіну. Справы мае – дзякуй Богу; Госпад даў чашу лягчэйшую, чым у іншых вязьняў. Пішу, працую, малюся. (…) Ведаю, што ўрэшце рэшт усё (усё!) будзе па-Божаму. (…) Трымайцеся! З Госпадам! Заўсёды ваш Павал Севярынец”. (Мацьвея 5:13 – 16!!!)

Другая паштоўка прыйшла з Глыбокага Віцебскай вобласьці, дзе ў папраўчай калёніі знаходзіцца Зьміцер Дашкевіч. “Вельмішаноўныя Ала, Валянціна й Валеры! Дзякуй вялікі вам за падтрымку й салідарнасьць. З радасьцю віншую вас з радаснай навіной: ХРЫСТОС УВАСКРОС! Няхай уваскрэсеньне ягонае асьвятляе ўсе шляхі вашыя ва ўсялякі час! “Няма іншага імя пад небам, дадзенага людзям, у якім маглі б мы быць збаўленыя” (Дзеі, 4:12).

Беларускія патрыёты, адукаваныя й творчыя асобы, глыбокія вернікі… Яны пакараныя за свае перакананьні, за прагу бачыць сваю Бацькаўшчыну незалежнай і дэмакратычнай. І хоць абодва знаходзяцца за турэмнымі кратамі, але дух іх вольны. Дык будзем усе разам, дарагія чытачы “Беларуса”, ганарыцца імі, дамагацца іх выхаду на свабоду ды абавязкова пісаць ім лісты й паштоўкі. Гэта іх падмацоўвае!

*Валянціна Трыгубовіч*

## Сяргея Каваленку накіроўваюць у псыхіятрычны шпіталь «Навінкі»

Як стала вядома 13 красавіка, Сяргей Каваленка спыніў галадоўку.

Сяргей Каваленка асуджаны на 2 гады і месяц за парушэньне ўмоваў адбыцьця «хатняй хіміі», якую атрымаў за вывешваньне бел-чырвона-белага сьцяга на навагодняй ёлцы ў Віцебску, з 19 сьнежня галадаваў з перапынкам на знак пратэсту супроць прысуду. 11 красавіка быў пераведзены ў псыхіятрычны шпіталь “Навінкі” пад Менскам, дзе яго пачалі карміць прымусова.

Выканаўца абавязкаў старшыні КХП-БНФ Юры Беленькі так ацэньвае мужны партэст Каваленкі: «Сяргей перамог рэжым. Рэжым аказаўся са сваімі войскамі і сілавымі структурамі бясьсільны перад воляй чалавека, які нясе сьветлую ідэю, які змагаецца за справядлівасьць, праўду».

# Раданіца





*Ушанаваньне памяці памерлых і традыцыйнае асьвячэньне магілаў на беларускім могільніку ў Іст Брансвіку (Нью-Джэрзі).*

## Сьвятыя зямлі беларускай

# Сохвія (Соф'я) Слуцкая



*1 красавіка (19 сакавіка па старому стылю) споўнілая 400 гадоў ад дня супачыну Беларускае Сьвятой Сохвіі (Соф'і) Слуцкай. З гэтай нагоды падаем дзеля ўшанаваньня яе памяці і слаўнага імя Жыцьцяпіс Сьвятой, складзены Уладыкам Сьвятаславам.*

Сьвятая праўдная Сохвія (Соф'я) Слуцкая – адна з найбольш шанаваных беларускім народам сьвятых, раўнасная абаронка Беларускага Праваслаўя ў часы вуніі, яна была апошняю з роду Алелькавічаў, прозьвішча якіх паходзіла ад кн. Алелькі (Аляксандра), унука Вялікага Літоўскага (Беларускага) князя Альгерда, праўнука кн. Гедзіміна. Слуцк, што стаіць на рацэ Случ, вядомы па летапісах з 1116 г. як горад Тураўскага княства, з кан. 12 ст. - сталіца асобнага Слуцкага княства. У 1441 г. горад атрымаў Магдэбурскае права.

Ейная прапрабабка княгіня Анастасься Слуцкая (Мсьціслаўская) была мужнаю абаронцаю Слуцка і Беларускае зямлі ад набегаў татараў. Ейны дзед Юры II Юр'евіч вызначаўся пабожнасьцю: ён уласнаручна перапісаў Евангельле для слуцкага Сьвята-Траецкага манастыра, разам з жонкай Кацярынай Тучынскай апекаваўся Слуцкімі храмамі. Сохвія была адзінай дачкой Слуцкага князя Юрыя III Юр'евіча, які за вернасьць Праваслаўю быў пазбаўлены месца ў сойме Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, але ўсё ж застаўся патронам Праваслаўя ў краі. Захаваліся зьвесткі пра ягоныя дары Царкве, напрыклад, у 1580 г. ён дорыць Дабравешчанскай царкве Сьвята-Траецкага манастыра літы сярэбраны настаяцельскі посах. Ад яго нядоўгага шлюбу (адзін год) з дачкою ліцьвінскага магната Барбараю Кішкай, 1 траўня 1585 года нарадзілася Сохвія. У тым жа годзе памерла ейная маці, а 6 траўня наступнага 1586 года – бацька, які быў пахаваны ў слуцкай мураванай Засьненскай царкве, узьведзенай у пачатку XVI ст. па загаду княгіні Анастасьсі Алелька замест старажытнай драўлянай у Верхнім замку. Апека над Сохвіяй перайшла ў рукі ейных сваякоў: спачатку да жмудзкага старасты Юрыя Хадкевіча, які ўзяў маленькую сірату да сябе ў Вільню, а затым, пасьля сьмерці апошняга, да Віленскага кашталяна, Берасьцейскага старасты, Героніма Хадкевіча. Сваякі Хадкевічы былі праваслаўнымі і выхоўвалі Сохвію ў Праваслаўі. Пасьля сьмерці родных дзядзькоў (па бацьку), якія перайшлі ў каталіцтва, Аляксандра (1591 г.) і Яна Сымона (1592 г.) Алелькавічаў да Сохвіі адышло ўсё Слуцкае княства з гарадамі Слуцк, Капыль, мястэчкамі Раманава, Старобін, Любань, Пясочнае, Ленін і 32 фальваркамі.

Абодва Хадкевічы, апекуны юнае сіраты, запазычылі князям Радзівілам значныя сумы грошаў і хацелі выкарыстаць сваю апеку, каб за кошт вялізных маёнткаў князёўны вярнуць даўгі ды й яшчэ шмат прыдбаць. Паводле гэтага Хадкевічы і князі Радзівілы заключылі пісьмовае пагадненьне адносна выдачы князёўны Сохвіі Алелька, пасьля дасягненьня ёю паўналецьця, за сына Віленскага ваяводы Крыштапа-Януша Радзівіла, князя нясьвіжскага (у будучым віленскага кашталяна). Пасьля гэтага пагадненьня князю Янушу Радзівілу было дазволена бачыцца з князёўнай Сохвіяй, якая жыла тады ў Вільні, у доме Хадкевічаў, якой было на той час 11 гадоў, і яна лічылася нявестай князя Януша.

Усё ішло добра, але раптам Радзівілы за доўг Хадкевічаў наклалі забарону на іхны маёнтак Копысь. Разгневаныя Хадкевічы неадкладна забаранілі спатканьні князя Януша з князёўнай Сохвіяй. Ні той, ні іншы бок ня думалі саступаць і сталі фармальна рыхтавацца да вайны. Радзівілы сабралі да 6 тысяч чалавек узброенай пяхоты й конніцы і грунтоўна ўмацавалі гарматамі свой палац. Хадкевічы, са свайго боку, умацаваліся ў сваім палацы ў цэнтры Вільні, узброілі больш за 2 тысячы чалавек зь ліку сваёй чэлядзі і выставілі 24 гарматы. Так у Вільні, у цэнтры Беларускае сталіцы, рыхтавалася вялікае кровапраліцьце, сапраўдная бітва, як паміж ворагамі, да спыненьня якога заклікаў вуніяцкі мітрапаліт Іпацій Пацей і накіраваныя каралём Жыгімонтам III Вазаю пасярэднікі, і мір прыйшоў па малітвах добрапамыснай Сохвіі і ейнае згоды на шлюб. Новае пагадненьне адбылося на наступных умовах: былі адменены ўсе грашовыя прэтэнзіі Радзівілаў да Хадкевічаў, апошнім было выдадзена пісьмовае пацьверджаньне аб правільным вядзеньні спраў па апецы над маёнткамі князёўны Сохвіі, больш таго, Хадкевічы атрымалі значную грашовую суму – 360 080 злотых і 500 валок зямлі адступнога і іх доўг быў скасаваны.

Пасьля таго, як князёўна Сохвія ўступіла ў шлюбны ўзрост, князь Януш Радзівіл зьвярнуўся да папы Рымскага з прашэньнем дазволіць яму, каталіку, уступіць у шлюб са сваёй сваячніцай (маці Януша Радзівіла Кацярына паходзіла з роду князёў Астрожскіх, якія былі сваякамі князёў Алелькавічаў) князёўнай Сохвіяй Слуцкай, якая застаецца ў Праваслаўі, з умовай, каб і дзеці як мужчынскае, так і жаночае стаці ад гэтага шлюбу былі абавязкова праваслаўнымі. Тэкст гэтага прашэньня ў перакладзе з лацінскае мовы такі:

*"Сьвяцейшы і Дабрашчасны ойча, Уладыка, літасьцівы Гаспадар! Пасьля цалаваньня ног Вашага Сьвяцейшаства (паведамляю): колькі гадоў таму ў мяне адбыўся шлюбны дагавор са слаўнаю Сохвіяй, дачкою Юрыя, слуцкага князя. У дагаворы запісана, што яна знаходзіцца ў чацьвёртай ступені крэўнага сваяцтва са мною, таму тайна шлюбу ніяк ня можа зьдзейсьніцца над намі. Але так як Ваша Сьвятасьць самымі законамі з таго ўзвышанага месца, на якое ўсемагутны Бог паставіў Ваша Сьвяцейшаства вяркоўным уладаром, мае сілу й моц гэтымі законамі кіраваць і распараджацца ў адпаведнасьці з абставінамі часу й людзей, то я зь вялікай пакорай малю Ваша Сьвяцейшаства, каб Ваша Сьвятасьць згодна з той міласьцю, якую яна праяўляе да ўсіх, хто прыпадае да яе, праявіла добрую волю прыйсьці на дапамогу таксама й мне, які падтрымліваю сьвятую каталіцкую веру, і сваёю ўладаю дазволіла мне гэты шлюб. А паколькі ўсе цэрквы, якія належаць самой Сохвіі, у ліку яе пасагу мне ўжо даўно абяцаныя, то я зь юрыдычнай асьцярожнасьці абавязаўся, каб яны заставаліся пры сваіх прывілеях і вольнасьцях. І мною было дакладна прадпісана, каб сама дзяўчына магла жыць са мною, каталікам, без перашкоды адносна ейнае рэлігіі. Між тым даручаю сябе міласэрнасьці Вашага Сьвяцейшаства і яшчэ раз з пакорай умаляю Ваша Сьвяцейшаства, каб Ваша Сьвятасьць міласьціва згадзілася на гэтую маю просьбу.*

*Напісана 20 дня ліпеня 1600 году.*

*Вашага Сьвяцейшаства пакорны паслушнік Януш Радзівіл, князь Біржанскі і Дубінскі."*

Лацінскі тэкст гэтага прашэньня зьмешчаны ў кнізе "Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии. № 41.

Вясельле Сохвіі з князем Янушам адбылося 1 кастрычніка 1600 г. паводле праваслаўнага абраду ў праваслаўным Берасьцейскім саборы, сьвята Пакроваў для дня шлюбу было абрана маладой князёўнай, бо ейнай абаронцай на працягу жыцьця была Божая Маці. З нагоды гэтага шлюбу й абавязку выхаваньня дзяцей у праваслаўнай веры ў далейшым узьнікла перапіска паміж Канстанцінопальскім Патрыярхам і Рымскім папам, якая закончылася нічым. Але хутка ў выніку моцных прэтэнзій з боку Рымскага прастолу князь Януш Радзівіл, пакінуўшы каталіцтва, перайшоў у кальвінскую веру. Адразу пасьля вясельля княгіні давядзілася падоўгу заставацца адной, бо князь Януш удзельнічаў спачатку ў Шведзкай, а пазьней – у вайне з Масковіяй.

Суцяшэньнем для княгіні Сохвіі пры ўсіх бедах у жыцьці была Праваслаўная вера. Усялякую скруху сваю зь дзяцінства яна ўскладала на Бога. У час падпісаньня Берасьцейскай царкоўнай уніі 1596 году горад Слуцк належаў Сохвіі. Вось яна й сталася для праваслаўнага насельніцтва Слуцка і для яго праваслаўных сьвятыняў абаронцай і ахоўніцай. Спрадвеку праваслаўны горад Слуцк менавіта ў ёй знайшоў той вялікі маральны аўтарытэт, тую маральную й матэрыяльную падтрымку, якія зь першых дзён аб'яўленьня вуніі далі магчымасьць праваслаўным жыхарам Слуцка аб'яднацца пад пакрывам сьвятыняў у Зьмяненскае брацтва для стойкае абароны роднага Праваслаўя, старажытнае беларускае-ліцьвінскае народнасьці і свае Бацькаўшчыны Літвы-Беларусі. У плённай дзейнасьці гэтага брацтва княгіня Сохвія заўсёды прымала самы жывы й дзейны ўдзел як высокаймянітая братчыца.

Свайго мужа, хоць і каталіка, а пазьней кальвініста, яна настойліва ўпрасіла хадайнічаць перад каралём Рэчы Паспалітай і атрымаць грамату аб забароне прымушаць праваслаўных да вуніі. Грамата была дадзена, падтрымка і абарона Праваслаўя супраць вуніі з боку княгіні Сохвіі ўвянчалася поўным посьпехам. Дзякуючы ёй, як вялікай ахоўніцы Праваслаўя, Слуцк застаўся адзіным з гарадоў Беларусі, дзе не было вуніяцкіх Парафіяў (на той час у горадзе апроч мужчынскага Сьвята-Траецкага манастыра, дзейнічала 15 праваслаўных храмаў) і які вытрымаў увесь гнёт каталіцызму і быў моцнай цьвярдыняй Беларускага Праваслаўя, захаваўшы яго цэласнасьць, чысьціню і непарушнасьць, так што ўся карэнная вера Праваслаўная ўцалела у тым самым выглядзе, у якім яна насаджана была першымі асьветнікамі славянаў. (Але, перажыўшы націск польскага каталіцызму, вуніі і іншыя нягоды, Беларускае Праваслаўе пазьней было зьнішчана Сінодам Расійскае Праваслаўнае Царквы пасьля далучэньня Слуцкага княства да Расійскай Імперыі ў 1793 г. і захопу ўсяе Літвы.)

Нават пасьля сьмерці княгіні Сохвіі, дзякуючы традыцыям, закладзенымі ёй, выдаваліся граматы ў абарону Праваслаўя яе мужам князем Янушам Радзівілам і княгіняй Людзьвікай Радзівіл. У першай Грамаце была сказана:

*"Цэрквы і манастыры рэлігіі старарускай у маёнтках маіх па-ранейшаму павінны быць захаваныя і нашчадкі мае павінны сачыць, каб не было ў тым аніякай перамены."*

Гэты дакумэнт захоўваўся ў архіве Слуцкай рэфармацкай кансісторыі.

Другая Грамата ў перакладзе з польскае мовы: *“Давёўшы ўсім, каму трэба ведаць, што цэрквы рэлігіі старой грэка-рускае, зь незапомных часоў пабудаваныя й арандаваныя ў Слуцку і Капылі й па ўсім княстве Слуцкім і Капыльскім, таксама й у маёнтках маіх Койданаўскім, Капыльскім, Бельскім, Заблудаўскім, Невельскім, Себежскім і іншых, каб заўсёды былі пад дабраславенствам Усходняга Канстанцінопальскага Патрыярха, як і дабрашчаснай памяці князі й княгіні, продкі мае, заўсёды гэтай рэлігіяй і падданымі праваслаўнымі апекаваліся, таму яны дагэтуль карысталіся і цяпер карыстаюцца свабодай свайго стара-грэцкага багаслужэньня і сілай царкоўных правілаў у духу Царквы Ўсходняе. А таму гэтым правілеем сваім абавязваю, каб цэрквы, архімандрыі, ігуменствы, манастыры й брацтвы ў княстве Слуцкім і іншых маіх уладаньнях на вечныя часы непарушна, без усялякай перамены захоўваліся ў поўнай свабодзе свайго багаслужэньня пад Канстанцінопальскім дабраславенствам і ва ўсіх сваіх звычаях і абрадах царкоўных. Акрамя таго, на месца спачылых сьвятароў, уніяты не павінны пастаўляцца і вунія ў гэтыя цэрквы не павінна ўводзіцца ніякім гвалтоўным ці прадуманым чынам; але няхай будзе ім дазволена для пасьвячэньня сьвятароў зьвяртацца да Ўладык невуніятаў, якія знаходзяцца ў межах Кароны і Літвы, а пры недахопе іх езьдзіць за мяжу без усялякіх перашкод і малейшых цяжкасьцяў. Усё гэта выконваць, як і абяцаў духавенству слуцкаму, а таксама пераемнікаў сваіх абавязваю гэты прывілей дакладна й непарушна выконваць.”* (Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии. № 152.)

Акрамя абароны Праваслаўя й беларускай народнасьці, княгіня Сохвія заўсёды клапацілася пра матар’яльнае забясьпечваньне манастыроў, цэркваў і кліру, шчодра ахвяруючы на храмы Божыя, уласнаручна выраблялa для цэркваў каштоўныя, вышытыя золатам і срэбрам сьвятарскія аблачэньні, ахвяравала сродкі на пабудову цэркваў. Як высокаймянітая паломніца падарожнічала нават у аддаленыя цэрквы ў дні Парафіяльных сьвятаў. Існавала жывое паданьне, што яна абавязкова прыходзіла пешшу ў пабудаваную выключна на ейныя сродкі Пакроўскую царкву на Мір-гары Языльскае Парахвіі Бабруйскага павету, куды ў дзень Пакроваў Прасьвятое Багародзіцы зьбіралася мноства багамольцаў. Да ахвяраваньняў на карысьць цэркваў і кліраў яна схіляла й свайго мужа, які, між іншым, Граматай ад 28 сьнежня 1611 года надаў слуцкай Уваскрасенскай царкве маёнтак Мялешкавічы, у 1854 годзе ён адышоў у казну, а клір за яго атрымліваў штогод даход каля 200 расійскіх рублёў. (“Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии.” № 45.)

Дзякуючы дзейнасьці слуцкай княгіні Сохвіі горад Слуцк яшчэ пры жыцьці гэтай вялікай угодніцы Божай атрымаў асаблівае значэньне ў рэлігійных адносінах для ўсяе Літвы-Беларусі, бо захаваў ва ўсёй чысьціні і недатыкальнасьці Праваслаўе, у выніку чаго паступова станавіўся рэлігійным цэнтрам, у ім яшчэ раней была ўсталявана Архімандрыя, вакол Слуцка групаваліся праваслаўныя сілы ўсяе Беларусі.

Адышла да Госпада праўдная Сохвія Слуцкая 19 сакавіка 1612 года, маючы няпоўных 27 гадоў, ад родаў дачкі, якая разам з ёй і памерла. Раней памерлі ейныя малыя дзеці: у 1604 г. – сын Мікалай, а ў 1608 г. – дачка Кацярына. Сябра ейнага мужа, паэт Саламон Рысінскі паклаў такія радкі “Эпітафіі” (жалобнае песьні на сьмерць Сохвіі):

*“Ты захавалася ў сузор’і Слуцкім адзіна,*
*Паміж літоўскімі, славай найяскравейшая першая дачка!*
*Хіба ты ня меней рыцар, чым горды муж твой вялікі?*
*Моц якая, наляцеўшы, нечакана цябе забрала...”*

Пахаваная праўдная Сохвія была ў Слуцкім Сьвята-Траецкім манастыры. Цела яе было пакладзена ў драўляную грабніцу, усталяваную ў металічную цынкавую, пакрытую зьверху пакрывалам цёмна-малінавага колеру, на якім была напісана: “Блажении алчущие, ибо тіи утешатся” і прымацаваны герб слуцкіх князёў Алелькавічаў. На вонкавым баку цынкавай грабніцы літымі літарамі напісана: “1612 года, сакавіка 19, спачыла дабраверная Соф’я, княгіня слуцкая Алелькаўна Юр’евічаўна, Альгердава племя, і пакладзена была ў Слуцку, у манастыры Сьвятой Жыванačальнай Тройцы”. Доўгі час мошчы Сьвятое знаходзіліся пад алтаром Спаскага храму Траецкага манастыра. У 1904 г. яны былі перанесены ў зімнюю капліцу манастыра. А ў 1912 г. грабніца гэтая была зьмешчана за правым кліpасам Сьвята-Траецкага сабору. Побач з ёю ў гэтым жа саборы знаходзіліся мошчы Сьв. мучаніка-дзіцяці Гаўрылы Заблудаўскага (Беластоцкага). На салеі, паміж іканастасам і грабніцай праведнае Сохвіі, стаяла ў ківоце родавая ікона слуцкіх князёў – цудатворны Слуцкі вобраз Божае Маці ў дарагой срэбнай рызе, усыпаны каштоўнымі камянямі. Перад ёю кожную сыботу перад Літургіяй на працягу года настаяцелем і браціяй манастыра служыўся малебен да Прасьвятое Багародзіцы, злучаны з Акафістам. Уся ікона была ўвешана рознымі падвескамі, ахвяраванымі ў розныя часы багамольцамі. Мошчы праўднай Сохвіі, нягледзячы на доўгі перыяд часу, добра захаваліся, адрозьніваюцца мяккасьцю. Яны маюць колер сьветла-жоўтага воску, палевы, вусны, зубы, нос, вочы, валасы, бровы й павекі – цэлыя, вочныя яблыкі выпуклыя, рукі складзеныя накрыж на грудзях. У старыя часы пабожныя гараджанкі на сабраныя ў складчыну грошы й ахвяраваньні рыхтавалі шаўковае ці атласнае адзеньне, у якое яе й пераапраналі толькі жанчыны. У народзе Сьвятая здаўна лічылася ахоўніцай хворых жанчын, у якое малітоўна просяць нябеснай дапамогі ад розных хвароб і пры цяжкіх жыцьцёвых абставінах, да грабніцы яе прыходзіла шмат паломнікаў з усяе Беларусі й з розных краёў.

Падтрымка й абарона Праваслаўя з боку княгіні Сохвіі не абмежавалася яе зямным жыцьцём. Пасьля сьмерці, удастоіўшыся за сваё пабожнае жыцьцё асаблівай міласьці Божай – нятленьня цела й цудатварэньня, яна стала вечнай апякункай Слуцка, усяе Беларускае зямлі й усіх, хто малітоўна зьвяртаецца да яе пры ўсялякіх жыцьцёвых нягодах. Каля мошчаў гэтае вялікае ўгодніцы Божае (падобна як і ля ракі іншае вялікай беларускай сьвятой Еўпрасіньні Полацкай), адбывалася мноства ўражальных цудаў, запісы якіх амаль не захаваліся да нашага часу. У архіве слуцкага Траецкага манастыра на пач. XX ст. быў знойдзены запіс цудаў па малітвах да дабравернай слуцкай княгіні Сохвіі, складзены настаўнікам Слуцкай семінарыі ераманахам Маркіянам, але з-за старасьці ён ня мог быць цалкам адноўлены.

Надзвычайную пабожнасьць і дабрадзейнасьць пераняла праўдная Сохвія ад свайго бацькі кн. Юрыя III Юр’евіча, які ўшаноўваецца, як фундатар ня толькі Слуцкага манастыра, дзе захоўваліся ягоныя два партрэты, але й іншых цэркваў. Рэнта, якую атрымлівалі слуцкія цэрквы і іхныя кліры, была навечным дарам князя. Але багатыя зямельныя ўгоддзі Слуцкага манастыра, падораныя князем Юрыем, у сярэдзіне XIX ст. забрала Расійская казна.

Княгіня Сохвія была кананізавана (прылічаная да сойму Сьвятых Праваслаўнае Царквы) ў 1-й палове XVII ст. пры Кіеўскім Мітрапаліце Пятры Магіле, Экзарху Канстанцінопальскага Патрыярха (па іншых дадзеных – пры ягоным пасьлядоўніку Мітр. Сільвэстры Косаве), перад чым яе вельмі ўшаноўвалі ў народзе. Сьвяткаваньне праўднай Сохвіі адбывалася ў дзень ейнага супачыну 19 сакавіка (1 красавіка за цяперашнім новым стылем). Пасьля далучэньня Літвы-Беларусі да Расійскае Імперыі й Беларускае Царквы - да Расійскае, праўдную Сохвію, як і многіх іншых Беларускіх Сьвятых, Сінод РПЦ не лічыў сьвятою, называючы яе “мясцовашанаванаю”. І толькі ў 1984 годзе Беларускі Экзархат РПЦ, з дазволу Маскоўскага Патрыярха, залічвае праўдную Сохвію да Сабору Беларускіх Сьвятых.

На пачатку XX ст., калі адбывалася Беларускае адраджэньне, жыхары Случчыны, продкі якіх стагоддзямі выхоўваліся ў нацыянальным і рэлігійным патрыятызьме, а натхняла іх на змаганьне за Бацькаўшчыну Сьвятая Сохвія Слуцкая і ейныя знакамітыя продкі, прымалі актыўны ўдзел у абароне Беларускае Народнае Рэспублікі ад расейскае бальшавіцкае навалы ў 1920 г., вядомай пад назовам Слуцкі Збройны Чын. Таксама Случакі радасна ўспрынялі абвешчаньне Незалежнае Беларускае Праваслаўнае Мітраполіі й абраньне Мітрапаліта Менскага й Беларускага на Царкоўным Саборы 23 (10) ліпеня 1922 г. у Менску, а настаяцель Слуцкага Сьвята-Траецкага сабору (манастыр на той час быў зачынены) пратаярэй а. Мікалай Шамяціла быў высьвечаны на япіскапа Слуцкага. На Менскім Саборы ў 1927 г. была абвешчана Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, да якое належала бальшыня праваслаўных сьвятароў і вернікаў Случчыны. Але чужая бязбожная маскоўская ўлада рыхтавала для беларусаў поўнае зьнішчэньне Праваслаўя і ўсяго нацыянальнага.

21(8) лютага 1930 года адмысловая камісія з савецкіх чыноўнікаў у прысутнасьці настаяцеля Траецкага Сабору Япіскапа Слуцкага БАПЦ Мікалая (Шамяцілы) «зьдзейсьніла агляд» мошчаў дзіцяці Гаўрылы і сьвятой Сохвіі, княгіні Слуцкае. Была выкрытая рака й складзены пратакол агляду з прыкладаньнем заключэньня й фотаздымкаў. У высновах камісія вызнавала адсутнасьць сьпецыяльнага бальзамаваньня целаў, а нятленьне абгрунтоўвала «тыповым прыкладам натуральнае муміфікацыі цела». Потым мошчы сьвятой княгіні былі вылучаныя й дастаўленыя ў Менск у анатамічны музей медфакультэта БДУ.

У часе акупацыі Беларусі нямецкімі войскамі, па просьбе настаяцеля Сьвята-Духава сабору ў Менску, Жыровіцкага архімандрыта Серахвіма Шахмуця, мошчы былі перанесеныя ў Сьвята-Духаў сабор Менска. Па сьведчаньнях удзельнікаў падзеяў аб вяртаньні ў 1941 г., акупацыйныя ўлады прынялі просьбу аб вяртаньні мошчаў у лона Беларускае Праваслаўнае Царквы, калі іх выявяць у руінах Менску. І вось, у цудам ацалелай будове медычнага факультэта БДУ, службы вермахту, якія праводзілі агляд і інвентарызацыю ацалелых будынкаў, выявілі Сьвятыню – мошчы Сьвятой. Патруль паведаміў клір Менскага Сьвята-Духава Сабору, што быў тады манастырскім храмам, пра сваю знаходку й пра задавальненьне просьбы аб вяртаньні мошчаў Царкве. Цяпер у гэтым жа Сьвята-Духавым катэдральным саборы, які цяпер належыць Беларускаму Экзархату РПЦ, знаходзяцца мошчы Сьвятое праведнае Сохвіі Слуцкае.

24 (11 - ст.ст.) верасьня 2000 г. у Слуцку быў адкрыты помнік Сьвятой Сохвіі, заступніцы горада. А 31(18) сакавіка 2012 г. ужо ў сталічным Менску, у гонар 400-годдзя супачыну праўднае Сохвіі Слуцкае, ёй быў адкрыты помнік каля асьвечанага ў 2007 г. у яе гонар праваслаўнага храму.

### Радавод Сьвятое Сохвіі Слуцкае Алелька:

Гедзімін
Альгерд (пам.+1377) –
Уладзімір –
Алелька (Аляксандр) –
Міхал –
Сямён ( пам.+1505, жонка - Анастасься Слуцкая /Мсьціслаўская/, 1473-1524) –
Юры I (1492-1542) –
Юры II (жонка - Кацярына Тэнчынская) –
Юры III (1559-1586, жонка - Барбара Кішка, пам.+1585) –
Сохвія (1585-1612)

# Беласточчына на сцэне і ў кнізе



*Маўчыць зямля, маўчаць у ёй магілы,*
*схаваны ў зямлю боль людскі маўчыць.*

*Ларыса Геніюш*

Група моладзі з Беластоку са сваёй настаўніцай беларускай мовы Алінай Ваўранюк доўгія гады гуляла ў тэатр, пазнавала Беларусь, знаёмілася з цікавымі людзьмі і вучылася роднай гісторыі. Набытыя веды і досьвед спатрэбіліся маладым людзям таксама пад час размоваў са сваімі блізкімі, бацькамі, дзядулямі і бабулямі, а яшчэ больш - пры апрацоўцы іхных аповядаў. Яны змаглі прадставіць часам трагічныя, а іншым разам камічныя, але заўсёды да болю шчырыя гісторыі сваіх сем'яў. Так паўстаў спэктакль, а затым і кніжка "Ой даўно, даўно... Беларускія гісторыі з Падляшша".

Са спэктаклем яны аб'езьдзілі шэраг меншых і большых мясцовасьцяў усходняе Беласточчыны. І нідзе не пакінулі публіку абыякавай. Гледачы наперамен сьмяяліся й плакалі, сьціхалі ўражаныя пачутым, каб праз хвіліну ўзнагародзіць маладых актораў гучнымі воплескамі і ня менш важкімі словамі: "Усё праўда. Так было!"

Так яно і ёсьць, усе гісторыі ў пастаноўцы і кнізе – чыстая праўда. Такая, якая жыве ў памяці канкрэтных людзей. Можна сказаць: іхняя праўда. Праўда беларускай Беласточчыны, бо гэта гісторыі ня толькі саміх маладых актораў і хранікёраў, але й іх суседзяў, аднавяскоўцаў, знаёмых іхных бацькоў, дзядоў і прадзедаў. Гісторыі гэтыя гучалі амаль ва ўсіх хатах Беласточчыны, але за іх парогі не выходзілі. Тым больш, не траплялі ні на старонкі кніжак, ні на тэатральныя афішы. "Прыемна думаць, што каб не мы, то гэта ўсё прапала б", – сьцьвярджае ў кнізе адна з удзельніц праекта.

Амаль два гады спатрэбілася, каб перакласьці пачутае на мову тэатра. Якая гэта цяжкая праца - ведаюць толькі яны. Але была гэта плённая праца. Такога моцнага і сьпелага тэатра, пастаўленага сваімі сіламі, беларусы ў пасьляваеннай Польшчы яшчэ ня мелі. Маладыя людзі выявілі сябе ня толькі на сцэне, але і за пісьмовым сталом. Таму сапраўды, дзякуючы ім гэтыя гісторыі будуць жыць нават тады, калі перастануць гучаць са сцэны (кожнае, нават самае доўгае турнэ калісьці канчаецца). Каб гісторыя жыла, яе трэба запісаць! Інакш яна адыходзіць разам з яе носьбітам. Гэтая, здавалася б, простая праўда як быццам не тычыцца беларусаў. Таму нават сёньня можна сустрэцца са зьдзіўленьнем суседзяў: "То беларусы маюць сваю гісторыю"?

"Ой даўно, даўно..." – гэта і ёсьць гісторыя беларусаў Падляшша ў XX стагодзьдзі. Хатняя, сямейная гісторыя, у якой галоўныя не лёсавызначальныя пастановы каралёў і прэзыдэнтаў, не вялікія войны, эпахальныя пераносы мяжы, а жывыя людзі з Бельска, Чыжоў, Кашалёў, Пасынак, Шпакоў, Ляўкова, Семяноўкі, Галадоў, Маліньнік, Кнаразоў, Ступнікаў, Грабаркі, Рэпіскаў, Тыневічаў, Елянкі, Доўгага Броду... На жаль, амаль усе галоўныя беды чалавецтва не абмінулі і падляшскіх хатаў. На шчасьце, хапала ў іх і сваіх радасьцяў.

Беластоцкія хранікёры надзвычай дбайна паставіліся да пачутага. Старанна запісвалі ня толькі зьмест расказаў, але і асаблівасьці мовы сваіх бабуль і дзядуляў. Прыгажосьць гэтай мовы ня толькі ў багацьці дыялектаў, але і ў спосабе маўленьня, характэрных зваротах, урэшце, жэстах, якія можна перадаць толькі на сцэне. Таму кніга не замяняе жывую пастаноўку. Тым ня менш, яна – істотнае дапаўненьне спэктакля "Ой даўно, даўно...". Больш таго – гэта помнік ня толькі названым тут па прозьвішчах людзям. Гэта помнік продкам, якія звычайна былі будаўнічым матэрыялам гісторыі, але не яе суб'ектам.

Вось як апісвае працу над спектаклем і кнігай "Ой даўно, даўно... Беларускія гісторыі з Падляшша" аўтарка праекту, настаўніца беларускай мовы ў Беластоку Аліна Ваўранюк:

Ад самага пачатку было вядома, што пачутымі гісторыямі будзем дзяліцца з як мага большай колькасьцю людзей, пры чым не яны да нас, а мы будзем выходзіць да іх. Што па сутнасьці ствараем вандроўны тэатр, які патрабуе мала рэквізытаў, затое выразных. Каб лёгка было раскласьці сцэну ў любых умовах і каб з іх дапамогай можна было цікава расказаць і пра бежанства, і пра вайну, і сьмерць, але таксама пра вячоркі ці вясельле. Хустка, ручнік, ікона – гэтыя прадметы прыйшлі ў галаву нейк натуральна, бо без іх немагчыма ўявіць беларускую хату. Як немагчыма ўявіць яе і без саліднага стала. Але як вазіць з сабой стол? Хіба, што пластмасавы, раскладны... Не, абы-якіх рэквізытаў да такіх гісторыяў мы не маглі сабе дазволіць. Таму атмасфэру хаты, але і вясковай лавачкі, і нават тэатра ў клуні перадаем з дапамогай старых табурэтак. Акторы апранутыя ў някідкія шэрыя льняныя кашулі і сукенкі ды вязаныя ваўняныя шкарпэткі. Натуральна і гарманічна. Прытым, гэта дазваляе гледачам засяродзіцца на слове.

Загаловак пастаноўкі, якая трымаецца на слове, таксама павінен быць моцны, адназначны, каб было вядома што й да чаго. Рабоча назвалі мы наш праект "Падляшскія хронікі", але гэты назоў нас не здавальняў. Бо невядома было, пра якое Падляшша ідзе гаворка, якія хронікі маюцца на ўвазе. Назваць спэктакль першымі словамі песьні "Ой даўно, даўно..." рашылі неяк спантанна, у час рэпэтыцыі, калі было ўжо ясна, што гэтая запісаная ў вёсцы Трасьцянцы песьня будзе адным з галоўных матываў прадстаўленьня. Другая частка загалоўка менш паэтычная, затое вельмі канкрэтная: "Беларускія гісторыі з Падляшша", на маю думку, тлумачыць усё.

Падрыхтоўка, дакладныя пляны, цяжкая праца, частыя рэпэтыцыі – бяз гэтага ня можа быць добрага спэкталя. Але каб ён атрымаўся сапраўды ўдалым, патрэбнае нешта незвычайнае, няўлоўнае, чаго ня можна заплянаваць. Так як з іконай Ліды Пякарскай. Гэта аўтэнтычная ікона, якую яе прабабка Оля вынесла з хаты ў Шпаках, спаленай у лютым 1946 году бандай Бурага. Выяўлены на ёй сьвяты Панцялейман, заступнік лекараў. Праз паўстагодзьдзя дачка васьмігадовага ў той час хлопчыка Колі Кучынскага, мама Ліды, стане лекарам. Беларускія гісторыі з Падляшша.



Два гады працы над падрыхтоўкай спэктакля, дзясяткі прэзэнтацый, а я ўсё не магу пасьля яго выступіць перад людзьмі і простымі словамі, коратка растлумачыць, чаму мы за гэта ўзяліся. У горле сядзіць нейкі камяк, з вачэй чамусьці цякуць сьлёзы..."

# Еўрапарламент заклікаў да новых санкцый і адмены хакейнага чэмпіянату

У рэзалюцыі, прынятай 29 сакавіка, Еўрапарламент заклікае федэрацыі нацыянальных хакейных зборных краін ЕС і ўсіх дэмакратычных нацый узняць на наступным Кангрэсе Міжнароднай федэрацыі хакею пытанне аб пераносе чэмпіянату з Беларусі, пакуль не будуць вызваленыя ўсе палітвязні. Наступны Кангрэс адбудзецца ў траўні ў сталіцы Фінляндыі Хельсінкі.

Рэзалюцыя залікае Мінск адмовіцца ад самаізаляцыі і вызваліць зняволеных па палітычных прычынах, у тым ліку Алеся Бяляцкага, Мікалая Статкевіча, Андрэя Саннікава, Паўла Севярынца, Дзмітрыя Бандарэнку, Сяргея Каваленку. У дакуменце гаворыцца, што рашэнне адклікаць амбасадараў усіх краін ЕС у Беларусі правалiла спробу беларускiх уладаў падзяліць ЕС у пытанні па санкцыях.

Рэзалюцыя заклікае Савет ЕС, у святле дыпламатычнага канфлікту і далейшага пагаршэння сітуацыі з правамі чалавека, пашырыць мэтавыя эканамічныя санкцыі

Еўрапарламент таксама шкадуе аб выкананні смяротных прысудаў Кавалёву і Канавалаву, а таксама аб стварэнні ўладамі спіса невыязных.

*euroradio.fm*
*29 Сакавік 2012*

# Эміграцыя ў сьвеце

Паводле дакладу Вярхоўнага камісара ААН у справах уцекачоў, у 44 «індустрыяльных краінах» сьвету ў 2011 годзе просьбу аб наданьні палітычнага прытулку падалі 441 300 ўцекачоў.

Колькасьць новых уцекачоў, зарэгістраваных на Захадзе ў 2011 годзе — найбольшая ад 2003 году, калі іх лік дасягнуў 505 000.

У дакладзе ёсьць збвесткі і пра Беларусь. У 2011 годзе былі ў краіне былі пададзеныя 90 просьбаў на атрыманьне прытулку (у 2010 — 150 просьбаў). А ў Эўропе у 2011 годзе папрасілі прытулку 1441 чалавек зь Беларусі (у 2010 — 941 чалавек).

У 2011 годзе найбольшую колькасьць уцекачоў складалі аўганцы, за імі былі кітайцы і іракцы.

Са згаданых 44 краінаў, найбольшая колькасьць просьбаў аб прытулку была зарэгістраваная ў ЗША (74 000), Францыі (52 000) і Нямеччыне (46 000).

*Паводле Радыё Свабода, 27.03.2012*

# Барысу Кіту – 102 гады!



6 красавіка сп. Барыс адзначыў свой дзень народзінаў у Франкфурце-на-Майне, дзе ён, грамадзянін ЗША, жыве ўжо шмат гадоў. Відаць, каб быць бліжэй да Беларусі.

Барыс Кіт знайшоў сваю "амерыканскую мару" ў найбуйнейшых аэракасмічных кампаніях ЗША, стаўся знакамітым навукоўцам у галіне касманаўтыкі.

Сп. Барысу было 26 гадоў, калі ён быў вымушаны пакінуць Бацькаўшчыну, але дзе потым ён ні жыў, ніколі не забываў пра сваю Беларусь. Заўжды браў актыўны ўдзел у жыцці беларускай дыяспары, быў фундатарам многіх эміграцыйных беларускіх выданняў. Валодаючы некалькімі эўрапейскімі мовамі, Барыс Кіт толькі беларускую прызнае роднай і ўвесь час размаўляе на ёй.

Жадаем сп. Барысу добрага здароўя і яшчэ шмат гадоў плённага жыцьця!

# Успаміны пра Палесьсе

У Польшчы выйшла кніга ўспамінаў Генрыка Васілеўскага “Чары майго Палесься” (“Czar mojeho Polesia”). Ён, паляк па нацыянальнасьці, нарадзіўся ў 1931 годзе ў мястэчку Сялец, Бярозаўскага раёну, Берасьцейскай вобласьці. Ад 1944 году жыве ў Польшчы .

На пачатку кнігі аўтар з учуцьцём і настальгіяй апісвае палескую флёру і фаўну, лясы і бары, рэкі. Гаворыцца таксама пра гісторыю Палесься, пра жыхарства гэтага краю, пра узаемаадносіны між палякамі, беларусамі і ўкраінцамі. І гэтая частка кнігі пакідае прыемнае ўражаньне.

Але, успаміны напісаны польскім ультрапатрыётам і Заходнюю Беларусь ён называе “Усходнімі курэсамі”, гаворыць пра тое, што гэтыя землі былі для палякаў “землямі зысканымі” – гэта значыць вернутымі Польшчы пасьля 150-гадовай няволі, што “ красавякі” чуліся тут сапраўднымі ўласьнікамі гэтай зямлі яшчэ ад часоў Пястаў. Хіба ж яна некалі належала Польшчы? Да падзелаў Рэчы Паспалітай Палесьсе ўваходзілі ў склад Вялікага Княства Літоўскага, а не Кароны Польскай. Таму адпаведнае стаўленьне аўтара і да карэннага насельніцтва Палесься, на ягоную думку варожыя адносіны беларусаў да польскіх асаднікаў дрэнна характэрызуюць самiх беларусаў. Ён прыгадавае, што пасьля далучэньня Заходняй Беларусі да Савецкага Саюзу зьявіліся банды беларусаў, варожа настаўленых да палякаў. Таксама пра час другой усясьветнай вайны піша, што немцы стварылі беларускую марыянеткавую дзяржаву і беларусы перасьледавалі палякаў.

Аўтар крытыкуе расейцаў, што то пад час расейскага панаваньня ў Польшчы праводзілася русыфікацыя палякаў, не было польскіх школаў, прымусова насаджалася праваслаўная вера. Але, ён не згадвае пра тое, што палякі рабілі тое самае ў Заходняй Беларусі, якая адыйшла да Польшчы пасьля 1921 году. Гэта якраз і было прычынаю таго, чаму беларусы непрыязна ставіліся да польскіх уладаў.

Выглядае, што і да сёньня ў пэўных слаях польскага грамадства яшчэ існуюць праімпэрскія настроі і нежаданьне ведаць праўдзівыя факты гісторыі, пра што ўжо шмат напісана як беларускімі так і польскімі гісторыкамі.

Аўтар, магчыма, думаў, што кніга пад назваю “Чары майго Палесься” будзе чытацца з зачараваньнем, але я асабіста прачытаў яе з расчараваньнем.

*Міхась Швэдзюк, Англія*

# Новыя здабыткі беларускай прысутнасьці ў Амэрыцы

У Нью –Ёрку ў мінулым годзе выйшла кніга, аўтарка якой Ніна Занковіч (Nina Sankovitch) належыць да напалову беларускай сям’і Занковічаў. Ейны бацька Анатоль Занковіч добра вядомы сярод беларускай эміграцыі ў Амэрыцы, ён жыў і працаваў да нядаўняга часу ў Чыкага і стаўся там вядомым хірургам. Пасьля выхаду на пенсію сп. Анатоль з жонкаю, бэльгійкаю па паходжаньні, перабраліся ў Нью-Ёрк , час ад часу ён наведвае беларускія імпрэзы і чытае нашу газэту. Сп. Анатоль перадаў Рэдакцыі гэту кнігу, якая мае арыгінальную назву “Tolstoy and purple chair” (“Толстой і фіялетавае крэсла”). Гэта аповяд пра гісторыю сям’і Занковічаў. У анатацыі згадваецца пра тое, што бацька аўтаркі ледзь не загінуў у Беларусі пад час Другой усясьветнай вайны.

Ніна Занковіч заўсёды вельмі любіла чытаць кнігі, але, магчыма, не задумвалася пра тое, што можа напісаць кнігу. Пабуджальным фактарам для таго, каб узяцца выкласьці свае пачуцьці і думкі на паперы сталася трагедыя ў сям’, калі памерла адна з трох сясьцёр Занковіч, старэйшая Анна-Марыя ва ўзросьце 46 гадоў ад раку. Пераджытыя стрэсы, пачуцьці і хваляваньні , жыцьцё пасьля трагедыі сталіся тэмаю кнігі. Гэтая прыватная гісторыя набыла агульначалавечае гучаньне ў таленавітым, эмацыйным апісанні сп. Ніны. Кніга перакладзеная на нямецкую, італьянскую, галяндскую, партугальскую, карэйскую і магчыма яшчэ перакладаецца на іншыя мовы.

Варта дадаць колькі слоў пра саму аўтарку. Яна, маці чатырох сыноў, знайшла сілы і час, каб напісаць кнігу, патрэбную людзям. Ніна жыве з сям’ёю у штаце Канэктыкут.

Віншуем Ніну Занковіч з добрым пачаткам пісьменьніцкага шляху і жадаем новых творчых посьпехаў.

*Ганна Сурмач*

# 26-я ўгодкі Чарнобыльскай катастрофы

## Роздум пра Чарнобыль



Я нарадзілася ў 1989 годзе, за 3 гады да майго зьяўленьня на сьвет на маёй зямлі здарылася жудасная трагедыя 26 красавіка 1986 году. Я і мае аднагодкі – дзеці Чарнобыля. Мы нарадзіліся, калі небясьпечныя для здароўя радыяцыйныя элементы пачалі распаўсюджвацца і асядаць паўсюдна па нашай краіне. Я не шкадую, што нарадзілася ў той час на той сьвятой для мяне зямлі. Наадварот, я шчасьлівая быць народжанай і ўзгадаванай на зямлі маіх дзядоў і прадзедаў – у краі срэбнаводных рэк, блакітных азёраў, пышных зялёных лясоў. На жаль, 26 красавіка 1986 году нас напаткала невымерная трагедыя: памутнелі рэкі і азёры, забрудзілася чарнобыльскім попелам навакольнае асяроддзе, а людзі напоўніліся страхам, што будзе заўтра?

Прайшло ўжо 26 гадоў. Цяпер я жыву ў Амэрыцы, але памяць пра Чарнобыль ніколі не пакіне мяне. Часта амэрыканцы пытаюцца ў мяне, адкуль я паходжу. Я з гонарам адказваю: “Я з Беларусі”. На некаторых тварах я бачу абсалютнае няведаньне. Некаторыя, перабіраючы ў памяці постсавецкія краіны, успамінаюць: “А, Чарнобыль на Беларусі, так, ведаю”, альбо: “Ваш прэзыдэнт Аляксандр Лукашэнка”. Дзьве ня вельмі прыемныя для нас, беларусаў, “візытныя карткі” жывуць ва ўспрыняцьці людзей у замежжы. Мне вельмі сумна ад гэтага. Нават яны памятаюць, а мы?

Нараджаюцца новыя пакаленьні, жыцьцё працягваецца, і, здаецца, Чарнобыль адыйшоў у мінулае. Але гэта зусім ня так...

Радыяцыя, асабліва яе першы ёдны ўдар, моцна падарвала здароўе беларусаў. Пакаленьні пасьля Чарнобылю маюць сур’ёзныя праблемы з самага нараджэньня. Асабліва адмоўна радыяцыя ўзьдзейнічае на рэпрадуктыўныя функцыі мужчын і жанчын. Выміраньне беларускага насельніцтва наўпрост зьвязана з вынікамі Чарнобыльскай аварыі. Але беларускія ўлады наўмысна скажаюць статыстыку сьмяротнасьці ад анкалагічных захворваньняў (асабліва раку шчытападобнай залозы) праз падмену ў пасьведчаньнях аб прычыне сьмерці з ракавай на сардэчна-судзінную.

Першыя 5-10 гадоў трагедыя шырока асьвятлялася замежнымі і пазьней беларускімі СМІ, рабіліся пэўныя захады па ліквідацыі наступстваў аварыі. Што мы бачым сёньня? Забыцьцё, замоўчваньне, а яшчэ страшней – адкрытая палітыка Чарнобыльскага генацыду. Скасоўваюцца дапамогі і льготы пацярпелым. У канцы 80-х на пераадоленьне наступстваў Чарнобылю выдаткоўвалася 25% бюджэту. Пасьля прыходу да ўлады Лукашэнкі гэтая лічба зьмяншаецца з кожным годам і цяпер складае менш за 4%. Беларуская моладзь з вышэйшай адукацыяй накіроўваецца на працу ў забруджаныя раёны.

Але кропку над усім ставіць пабудова новай атамнай станцыі ў Астравецкім раёне ў Беларусі. Беларускія ўлады безадказна заяўляюць, што краіна валодае дастатковым навуковым і тэхнічным патэнцыялам для гэтай будоўлі. Больш за тое, будаваць яе будуць расейскія фірмы, і такім чынам мы ізноў станем заложнікамі недасканалых расейскіх тэхналёгій, якія некалі прывялі да катастрофы ў Чарнобылі.

У чарговую гадавіну Чарнобыля хочацца зьвярнуцца да беларусаў у замежжы, асабліва да моладзі – памятайма пра нашу Бацькаўшчыну, нягледзячы на адлегласьці, жыцьцёвыя акалічнасьці і неспрыяльныя умовы, гуртуймася разам, каб дапамагчы чым можам нашаму народу ў бядзе!

*Наталля Ганчарук, Філядэльфія*

## Іркуцкіх беларусаў абвінавачваюць у экстрэмізме



*Алег Рудакоў*

Расейскія праваахоўныя органы ў Іркуцку распачалі супраць 26-гадовага тамтэйшага беларуса Аляксея Кухты справу аб экстрэмізме. Яму выставілі абвінавачаньне паводле артыкулу «Узбуджэньне нянавісьці альбо варожасьці, а таксама зьнявага чалавечай годнасьці».

Аляксей Кухта — актывіст маладзёвага клюбу «Крывічы», які дзейнічае пры Іркуцкім таварыстве беларускай культуры імя Яна Чэрскага. Паводле інфармацыі расейскіх праваахоўных органаў, ён выкладваў «экстрэмісцкія фатаграфіі і відэа» на сваёй старонцы ў сацыяльнай сетцы. Падчасператрусу ў ягонай кватэры былі знойдзеныя «нашыўкі з нацысцкай сымболікай і літаратура экстрэмісцкага зьместу».

У сувязі з справай аб «беларускім экстрэмізме» 17 красавіка быў праведзены ператрус у офісе Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага і на кватэры яго старшыні Алега Рудакова. У кватэры Рудакова былі канфіскаваныя асабістыя кампутары ягоны і яго прыёмнай дачкі.

Алег Рудакоў патлумачыў Радыё Свабода, што зь беларускіх матэрыялаў былі канфіскаваныя каляндарыкі з выявамі заснавальнікаў БНР і незалежніцкіх дзеячоў, у тым ліку Васіля Быкава: «Наша Іркуцкае таварыства беларускай культуры і маладзёвы клюб „Крывічы“ вядуць
культурна-асьветніцкую працу. Мы не займаемся палітыкай, тым больш экстрэмізмам. У нас толькі навуковая, асьветніцкая, грамадзкая дзейнасьць. У нас ёсьць фальклёрныя гурты, сэкцыі па рамёствах, сэкцыі бытавога танцу і г. д. Тое, што сярод нас знайшоўся хлопец, які там штосьці разьмясьціў на сваіх старонках — гэта ягоная ініцыятыва і асабістая справа. Але сьледчаму камітэту аднаго чалавека мала — ім патрэбная цэлая арганізацыя, каб разьдзьмуць з мухі слана і зарабіць нейкі капітал».

Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня даслала свой пратэст супроць дзеяньняў іркуцкіх уладаў на адрас амбасады Расеі ў Менску і ў пракуратуру Іркуцку, падобную заяву пратэсту даслалі таксама беларускія суполкі ў Літве".

*Паводле Радыё Свабода,17.04.2012*

## Ангельскія газэты пра Беларусь

Газэта “The Sunday Telegraph” за 11 сакавіка пісала пра міжнародныя гульні па атлетыцы ў Стамбуле ў першай палове сакавіка, дзе выразных посьпехаў дасягнулі беларускія спартоўкі.

Н. Астапчук піхнула ядро на 20.4 м. і выйшла на другое мейсца, за што атрымала сярэбраны мэдаль. А іншая беларуска А. Талай у бегу з перашкодамі на 60 м. заняла трэйцяе мейсца і атрымала бронзавы мэдаль.

Пра Беларускі вольны тэатр быў доўгі артыкул пад назовам “Найдважнейшая тэатральная група ў сьвеце” у газэце “The Daily Telegraph” за 5 красавіка. У Лёндане тэатр будзе выступаць у сусьветна вядомым тэатры Shakespeare’s Glob, дзе будзе прадстаўляць “Караля Ліра”. Аўтар артыкулу Дамінік Кавэндзіш (Dominic Cavendish) падзіўляе адвагу актораў Беларускага вольнага тэатра перад “абліччам небясьпекі з боку брутальнага рэжыму”. Артыкул сп. Кавэндзіша чытаецца з падвойнымі пачуцьцямі. З аднаго боку – гонар за тое, што ёсьць у Беларусі такія таленавітыя і патрыятычныя людзі. З другога – смутак і жаль, што такія вартасныя людзі змушаны пакінуць родны кут і дэманстраваць сваё майстэрства за мяжою.

*Міхась Швэдзюк, Англія*

# Сяброўскі ліст з Вільні

*Напярэдадні Сакавіцкіх сьвятаў мы атрымалі ліст ад нашых калегаў з Вільні, які даслаў нам сп. Саўчанка:*

“Газэта “Беларус” выходзіць ужо 63-ці год. Апошнюю газэту мы дасталі пад нумарам 589. Гэта ўражвае – 589 выпускаў, дзе адлюстраваліся розныя падзеі ў сьвеце, у Беларусі, у беларускім замежжы. Шкада, што самыя першыя цікавыя і пазнавальныя нумары нам невядомыя, былі яны недасягальнымі, бо жалезная заслона закрывала шлях усялякай інфармацыі з-за мяжы для нас – былых жыхароў Беларусі. І калі цяпер гартаеш старонкі старых нумароў “Беларуса”, якіх вельмі мала знайшлося ў нас у Літуве (яны былі дасланыя сп. Міхасём Белямуком), бачыш, якое зьмястоўнае жыцьцё было ў нашых суайчыньнікаў. Яны ня толькі змагаліся за асабістае выжываньне на чужыне, але гуртаваліся разам, стваралі беларускія асяродкі, рупіліся пра сваю культуру і навуку, захоўвалі сваю мову, будавалі цэрквы. Эмігранты рабілі ўсё магчымае і часам немагчымае, каб данесьці да ўсяго сьвету праўду пра сваю Бацькаўшчыну, пра яе гаротны лёс у цісках савецкай імпэрыіі, марылі ўбачыць яе вольнаю, незалежнаю і багатаю.

Беларускі афіцыйны друк увесь час трактаваў беларусаў замежжа як ворагаў савецкай Беларусі, як здраднікаў. Але, на самай справе гэтыя людзі былі і ёсьць сапраўднымі патрыётамі сваёй радзімы, якія шмат рабілі і робяць для таго, каб ня зьнікла з мапы сьвету краіна Беларусь, каб яна стала сапраўды незалежнай, каб не была праглынутай “братамі-суседзямі” з Усходу і Захаду. Будучы ў складзе расейскіх імперыяў, Беларусь страціла мільёны сваіх лепшых сыноў і дачок, прыйшла ў заняпад наша мова і культура. І таму стаўся магчымым прыход да ўлады Лукашэнкі. Але надзея ёсьць, яна ўзрастае ў самой Беларусі і яе падтрымоўваюць нашы суродзічы ў замежжы.

Сёньня мы можам без перашкодаў атрымліваць газэту “Беларус”, яна дае нам розную патрэбную і цікавую інфармацыю. Мяняюцца рэдактары, доўгі час газэту выдаваў сп. Марат Клакоцкі, які дасылаў нам газэту, і мы яму вельмі ўдзячныя за гэта.

Цяпер рэдакцыю ўзначальвае сп-ня Ганна Сурмач, добра вядомая нам яшчэ з Беларусі, а цяпер і ў замежжы. Але газэта выходзіць, як заўсёды, пад клічам – “Жыве Беларусь!”, і гэта нас натхняе.

Нам вельмі хочацца, каб газэту чыталі на Бацькаўшчыне, якая ізноў адрэзаная ад сьвету.

Посьпехаў “Беларусу” і плёну ў вашых намаганьнях несьці беларусам сьвету ідэі незалежнасьці і адраджэньня.

Віншуем рэдакцыю і ўсіх чытачоў з нашым найвялікшым Сьвятам - Днём Волі.

Жыве Беларусь!

*З пашанаю,*
*Рэдакцыя газэты “Рунь”, Вільня*

*Ад імя Рэдакцыі газэты “Беларус” выказваем падзяку за словы падтрымкі нашым калегам з Вільні і зычым ім посьпехаў, каб беларуская “Рунь” на Віленшчыне зелянела вечна.*





## Віншаваньне

*Напярэдадні Сакавіцкага сьвята цудоўны падарунак атрымала сям’я Ніны І Валодзі Цяліцаў. У іх нарадзілася дачка, якой далі імя Сафія ў гонар Беларускай Сьвятой Сафіі Слуцкай. Віншуем бацькоў і іх малодшых дачок Жэню і Машу з прыбыткам у сям’і і зычым усім шмат прыемнасьцяў ад гэтай добрай перамены ў жыцьці. А маленькай беларусачцы Сафійцы жадаем шчасьлівага жыцьцёвага шляху!*

## Віншаваньне з Вісконсіну

*З нагоды Вялікодных Сьвятаў сваё віншаваньне беларусам замежжа даслала сп. Валянціна Якселіс з штату Вісконсін. Яна вітае ўсіх, хто славіць імя Божае на роднай мове, і згадвае, што беларуская мова ёсьць унікальная, дзякуючы ёй мы можам разумець адзін аднаго і дамаўляцца.*

# Каляндар памятных датаў на красавік 2012 году

1 красавіка, 135 гадоў таму, у 1877 годзе, нарадзіўся Васіль Захарка старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (1928-1943)

4 красавіка, 455 гадоў таму, у 1557 годзе, нарадзіўся Леў Сапега, дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага

4 красавіка, 125 гадоў таму, у 1887 годзе, нарадзіўся Фабіян Шантыр, грамадзка-палітычны дзеяч, пісьменьнік, публіцыст

7 красавіка – Сусьветны дзень здароўя

9 красавіка , 95 гадоў таму, у 1917 годзе, нарадзіўся Мікола Вярба (Сільвановіч), пісьменьнік, грамадзкі дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Канадзе

10 красавіка, 30 гадоў таму, у 1882 годзе, памерла Апалёнія Савёнак, настаўніца, пісьменьніца, дзеячка эміграцыі ў ЗША

11 красавіка, 75 гадоў таму, у 1937 годзе, расстраляны ці памёр ад катаваньняў у сталінскай турме Цішка Гартны, дзяржаўны дзеяч, пісьменьнік

16 красавіка, 180 гадоў таму, у 1832 годзе, нарадзіўся Альфрэд Ромэр, мастак, скульптар, мастацтвазнавец, удзельнік паўстаньня 1863 году

18 красавіка – Міжнародны дзень помнікаў і гістарычных мясьцін

18 красавіка, 125 гадоў таму, у 1887 годзе, нарадзіўся Анатоль Дзяркач(Зіміёнак), паэт

24 красавіка – Міжнародны дзень салідарнасьці моладзі

26 красавіка – Дзень памяці ахвяраў Чарнобыльскай катастрофы

## Сьв. памяці Ганна Пазьняк (1922 – 22 красавіка 2012)



22 красавіка памерла Ганна Пазьняк – маці Зянона Пазьняка. Яна не дажыла некалькі дзён да свайго 90-годзьдзя. Лёс падараваў ёй доўгае жыцьцё, але яно ў бальшыні было напоўненае трывогамі, клопатамі, перажываньнямі за лёс сваёй сям'і, якая так шмат зрабіла дзеля беларускага нацыянальнага адраджэньня. Сп. Ганна перажыла шмат стратаў сваіх блізкіх, якіх забралі сталінскія рэпрэсіі і вайна. Пасьля таго, як на вайне загінуў муж, сп. Ганна адна выгадавала сына і дала яму годнае выхаваньне. І нарэшце балючую рану нанёс ёй сучасны беларускі рэжым, калі яе адзіны сын – лідэр Беларускага Народнага Фронту, вымушаны быў выехаць у эміграцыю і на старасьці гадоў яна апынулася адна. Сп. Ганну не пакінулі паплечнікі сына і дапамагалі ёй да канца жыцьця. Але хіба нехта заменіць маці свайго роднага сына, якому нават на пахаваньне не было магчымасьці прыехаць. Напэўна і сама маці не хацела б сёньня вяртаньня сына дадому, дзе яму можа пагражаць небясьпека.

Сёньняшнія палітычныя эмігранты пазбаўлены магчымасьці разьвітацца і праводзіць у апошні шлях сваіх родных. Гэта вялікі боль, які застанецца ў душы да канца жыцьця.

І мы не даруем гэтага дыктатарскай уладзе і яе прысьпешнікам…

Выказваем самыя шчырыя спачуваньні сп. Зянону Пазьняку і ягонай жонцы Галіне.

*Ганна Сурмач*

## Сьв. памяці Уладзімір Літаровіч

Няўмольны жыцьцёвы лёс кожнага чалавека мае свой пачатак і канец. Мы аддаем пашану памяці Уладзіміра Літаровіча, які пакінуў гэты сьвет 18 сакавіка 2012 г. ва ўзросьце 80 гадоў.

Нарадзіўся Уладзімір Літаровіч у вёсцы Боркі на Бабруйшчыне. Пасьля Другой усясьветнай вайны сямья Літаровічаў апынулася ў Нямеччыне, ва ўкраінскім лягеры ДП ў Гановэры. Там была вялікая група беларусаў. Яны арганізавалі беларускую праваслаўную царкву, пачатковую школу для дзяцей і беларускі скаўтынг. У 1952 годзе Літаровічы прыехалі ў Амэрыку ў Саўт Рывэр і тут ізноў уключыліся ў беларускае жыцьцё. Уладзімір быў сябрам Парахфіяльнага камітэту. Працаваў на фабрыцы "Швайцэр" цягам 47 гадоў як інжынер.

Пакойны Уладзімір амаль кожную рэч мог зрабіць ці паправіць пры пабудове царквы і Беларускага Грамадзкага Цэнтру.

Ад імя Парахвіяльнага камітэту Беларускай Праваслаўнай Царквы імя Сьвятое Еўфрасіньні Полацкай выказваем самае шчырае спачуваньне сямьі нябожчыка – жонцы Галіне, дзецям і ўнукам.

Пахаваны Уладзімір на Беларускіх могілках у Саўт Рывэры. Няхай яму будзе пухам амэрыканская зямля і сьняцца сны аб Беларусі!

*Міхась Сенька*



### На выданьне "Беларуса" ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Марыя Азарка ( у памяць 7-й гадавіны сьмерці яе мужа Янкі Азаркі) | - $100 |
| Натальля Ганчарук | - $ 50 |
| Марыя Дземковіч | - $ 50 |
| Жэня Дубяга | - $ 50 |
| Анатоль Занковіч | - $ 100 |
| Янка Запруднік | - $ 50 |
| Мікола і Рэна Касьцюкі | - $ 50 |
| Ала Кузьміцкая | - $ 50 |
| Сям'я Орса Раманаў (замест кветак на магілу Ніны Сільвановіч) | - $ 100 |
| Таццяна Шосьцік | - $ 50 |
| Астап Яраховіч | - $ 50 |

**Шчыры дзякуй усім ахвярадаўцам!**


**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
*Belarusan American Ass'n, Inc.*

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Алена Высоцкая - адказная за кампутарную вёрстку
Андрусь Падлескі – сябра рэдакцыі
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
*Hazeta Bielarus*
*166-34 Gothic Drive*
*Jamaica, NY 11432*
*USA*

**Грашовыя чэкі выпісываць на імя :** *BIELARUS newspaper*
дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.

**Электронны адрас (email):**
**bielarus@bazahq.org**

*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*

## Сьв. пам. Арына Вячорка
### (14 красавіка 1961 – 9 красавіка 2012)



5 красавіка ў аэрапорце Вільні ў 50-гадовай Арыны здарыўся інсульт. Ад таго часу яна заставалася ў коме і памерла ў віленскім шпіталі 9 красавіка.

Арына Вячорка – беларускі педагог, грамадзкая і культурная дзеячка, ініцыятарка адраджэньня рыцарскага руху і гістарычнай музыкі Беларусі.

Нарадзілася ў Менску. Скончыла механіка-матэматычны факультэт БДУ а потым асьпірантуру пры БДУ па спецыяльнасці «гісторыя педагогікі»; Вышэйшую школу грамадзкіх прафесій па спецыяльнасьці «мэнэджарка культуры» (Познань).

Працавала ў беларускіх школах Менска, у Лябараторыі філасофіі і гісторыі і адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі. Аўтарка артыкулаў па гісторыі беларускай педагогікі, гісторыі матэматыкі і тэхнікі Беларусі для «Энцыклапеды гісторыі Беларусі», «Гісторыі беларускай навукі і тэхнікі». Укладальніца двухтомнай бібліяграфіі гісторыі беларускай педагогікі.

Сузаснавальніца першага беларускага нефармальнага згуртавання новага часу «Беларуская спеўна-драматычная майстроўня» (1980–1985). Удзельніца руху за адраджэнне беларускай школы з 1983 года. Сузаснавальніца моладзевага адраджэнцкага згуртаваньня «Талака» (1986–1988).

Адна з арганізатарак дзіцячага летніка «Грунвальд» (1992).

З 1993 заснавальніца рыцарскага руху Беларусі. Стваральніца і кіраўніца Беларускага рыцарскага клуба, пазней клюба «Вялікае княства» (1996–2007).

Арганізатарка больш чым ста канцэртаў старадаўняй і фальклорнай музыкі «Легенды Вялікага Княства», «Старадаўняя музыка Беларусі і Еўропы» ды іншых. Прад'юсарка гурту «Стары Ольса», музычнага праекта «Вір». Кансультантка музычнага праекта «Гістарычны эпас», фільма «Старадаўнія музычныя інструменты Беларусі», ініцыятарка і ўдзельніца шмат якіх іншых культурных праектаў.

Арына Вячорка была знакавую асобаю ў новым беларускім Адраджэньні, мела шмат сяброў і палечнікаў, якіх пакінула ў смутку так нечакана.

Выказваем шчырыя спачуваньні родным Аліны, найперш яе заўчасна асіраццелым дзецям – дачцы Радаславе, сыну Франаку і малодшай Ружане.

*Рэдакцыя*

## Сьв. памяці Анатоль Сабалеўскі
### (27.05.1932 – 06.04.2012)



6 красавіка пасля працяглай хваробы памёр выдатны беларускі тэатразнавец, прафесар, доктар мастацтвазнаўства Анатоль Сабалеўскі. трохі не дажыўшы да свайго 80-годдзя. У 1974—1979 гг. Сабалеўскі быў рэктарам Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (зараз Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў).

Сп. Анатоль каля 50 гадоў выкладаў у Акадэміі, узгадаваў шмат пакаленняў студэнтаў і аспірантаў, быў выдатным знаўцам гісторыі беларускага тэатра.

Анатоль Сабалеўскі быў актыўным і ў грамадзкай дзейнасьці пад час новага беларускага Адраджэньня. Ён браў удзел у заснаваньні Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» і надалей плённа працаваў дзеля беларускай дыяспары ў сьвеце. Напісаў і выдаў манаграфію «Культура беларускага замежжа».

Сьветлая памяць Анатолю Вікенцьевічу.

## Сьв. памяці Ніна Сільвановіч
### (12.07.1937 – 23.03.2012)



Нарадзілася нябожчыца ў вёсцы Крупчыцы Кобрынскага раёну ў сям'і праваслаўнага дыякана Емельяна й Веры Кайкаў (дзявоче прозьвішча маці -- Сакалоўская). Улетку 1944 г. бацькі Ніны з чатырмя дзяцьмі (Ніна наймалодшая) пакінулі Беларусь, ратуючыся ад Саветаў . Жылі ў Нямеччыне. У 1947 г. бацьку высьвяцілі ў сьвятары. У 1950 г. сям'я Кайкаў выехала ў Амэрыку. Хутка па прыбыцьці за акіян пасялілася ў гор. Саўт-Рывэры, дзе жыло шмат беларусаў. Тут Ніна ха-дзіла ў школу, атрымала сярэднюю асьвету. У 1957 г. выйшла замуж за Аляксандра Сільвановіча. У іх нарадзілася чацьвёра дзяцей.

Алекс і Ніна былі актыўнымі прыхаджанамі царквы Жыровіцкай Бо-жай Маці (БАПЦ) у Гайленд Парку. На працягу многіх гадоў Ніна выконвала абавязкі скарбніка ў сястрыцтве. Алекс Сільвановіч быў сябрам кансысторыі БАПЦ. Абое бралі ўдзел у рэлігійным і грамадзка-культурным жыцьці. Пасьля здабыцьця Беларусяй незалежнасьці наведвалі Бацькаўшчыну, завозілі туды дапамогу ахвярам чарнобыльскай катастрофы. Пасьля сьмерці мужа ў 2007 г. Ніна шмат зрабіла дзеля захаваньня ягонай памяці: у краязнаўчым музэі гор. Вялейка знахозяцца цяпер дакумэнты, фатаграфіі, асабістыя рэчы Алекса й Ніны Сільвановічаў, як сьведчаньне іхняга працавітага жыцьця й дабрачыннай дзейнасьці.

Адпяваньне адбылося ў царкве сьв. Еўфрасіньні Полацкай, а ў пахавальным абрадзе ўзялі ўдзел сьвятары абедзьвюх цэркваў.

За памінальным сталом у саўтрывэрскім Беларуска-Амэрыканскім Цэнтры, дзе сабраліся ўдзельнікі пахавальнага браду – сем'і двух сыноў, Антона й Андрэя, ды дзьвюх дачок, Ірэны й Галіны – успамінамі пра нябожчыцу падзяліліся а. Міхаіл, настаяцель царквы сьв. Еўфрасіньні Полацкай, Янка Запруднік і Люда Бакуновіч.

Ніна Сільвановіч была чалавекам спакойнае натуры, вернай жонкай, добрай маці, руплівай гаспадыняй, хрысьціянкай глыбокае веры. Усё добрае пра нябожчыкаў успамінаецца не дарма. Яно служыць прыкладам для тых, хто застаецца жыць.

Спачыла сьв. пам. Ніна Сільвановіч побач са сваім мужам на беларускім могільніку ў Іст Брансўіку. Вечная ёй памяць.

*(Я.З.)*

## Сьв. пам. Ірына Марачкіна
### (жнівень 1941 – 3 красавіка 2012)



Сп. Ірына нечакана памерла 3 красавіка на 71 годзе жыцьця пасьля прагулкі на руках у ейнага мужа мастака Аляксея Марачкіна.

Ірына Марачкіна нарадзілася ў жніўні 1941 году. Усё жыцьцё яна была асьветніцай: працавала мэтадысткай Міністэрства асьветы, сакратаром Таварыства беларускай мовы, потым намесьнікам старшыні ТБМ, сакратаром Управы. Яе інтэрвію з шматлікімі дзеячамі культуры друкаваліся ў «Нашым слове», «Народнай волі».

Выказваем шчырае спачуваньне сп. Аляксею Марачкіну, якога добра ведаюць у беларускім замежжы, як мастака і як былога прэзыдэнта Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына». Спачуваем таксама сыну Ігару і ягонай сям'і.

# 1 красавіка - Дзень сьмеху

## Вось вам, беларусы, і Дзень дурня

*Гэты нумар нашай газэты выходзіць у красавіку, і не магчыма ў ім абыйсьці самы вясёлы дзень у кожным годзе - 1 красавіка. Дзень гумару, жартаў, розыгрышаў, жартаўлівых падводаў, гэты дзень часта называюць Днём сьмеху ці Днём дурня. Але ў Беларусі цяпер зусім не да жартаў, хаця і там знойдзецца шмат чаго, што можа выклікаць сьмех скрозь сьлёзы ці проста ўсьмешку.*

Пастановаю Савета міністраў Беларусі № 1785 ад 30 сьнежня 2011 году з 1 красавіка ў Беларусі базавая велічыня падвышана з 35 тыс. рублёў да 100 тыс.

Базавая велічыня – гэта вынаходніцтва лукашэнкаўскай сыстэмы. Яна ёсьць універсальнай меркаю для featрознага кшталту плацяжоў. Да базавай велічыні прывязаныя памеры сацыяльных выплат, штрафы, стаўкі дзяржаўнай пошліны і арэнднай платы. Базавая велічыня не мянялася з 1 сьнежня 2007 года.

З павелічэньнем базавай велічыні адначасна ўзрастаюць памеры ня толькі сацыяльных выплатаў, але і іншых масавых плацяжоў. А менавіта – усіх штрафаў, якіх у Беларусі прадугледжана мноства, у тым ліку і для ўдзельнікаў апазыцыйнага руху за «нецэнзурную лаянку», напрыклад, і для парушальнікаў дарожнага руху і грамадзкага парадку. Падаражаюць у тры разы зборы за выдачу дакумэнтаў (пашпартоў), за разводы, плата за інтэрнаты і г.д. У выніку тое, што давядзецца насельніцтву дадатковa пакласьці ў дзяржаўную кішэню, будзе, як выглядае, шматкроць перавышаць падвышэньне сацыяльных выплатаў, якія дае грамадзянам дзяржава.

Дыктатура патрабуе грошай і ў сваім заядлым змаганьні з уласным народам прыдумвае новыя і новыя спосабы выкачваньня іх са зьбяднелага насельніцтва краіны.

Так што новая базавая велічыня – гэта не красавіцкі жарт беларускіх уладаў.

## Жартам і ўсур'ёз: падборка з Інтэрнэту

На жаль, шмат чаго тут падаецца на расейскай мове і таму заместа перакладаў дадаем нашыя камэнтары на беларускай мове.




Подпіс на ўказальніку: “Беларусбанк. Выдача крэдытаў на ежу”.




Прапанаваная рэкляма для Макдональдса на Кастрычніцкай плошчы : “Вазьмі Бігмак у аўтазак” (аўтазак – спецмашына для перавозкі затрыманых на мітынгах).

Рэкляма прапануе бясплатную дастаўку ў турму на Акрэсьціна.




## Цуды беларускіх інавацый



Напярэдадні Дня незалежнасьці ў Інтэрнэце зьявіліся фота з рэпетыцыі ваеннага параду, на якім беларускія навукоўцы і вынаходнікі прадставяць новую ваенную тэхніку, якая ня мае аналягаў у сьвеце.

## Вясковы аўтазак?






Жарт ці ня жарт: надпіс у краме «Касір: Каралева Вікторыя» (заместа “ё” ужыта літара “е”).

## Хітры плян

Галоўны трэнер хакейнага клюба «Юнацтва» Міхаіл Захараў у каментары пра магчымы байкот Чэмпіянату сьвету па хакеі ў Беларусі выказаўся так:

“Не прыедуць канадыйцы і амэрыканцы – і што? Мы лепш выступім! Ды і ўся Эўропа гэтаму толькі ўзрадуецца: нарвэжцы, датчане, немцы... Калі яшчэ прадставіцца такая магчымасьць пазмагацца за медалі?”

Да чаго хітры плян! Дабіцца неприсутнасьці мацнейшых камандаў сьвету і пакінуць сабе ўсе тры камплекты медалёў! Як бы гэта яшчэ расейцаў да байкоту нашага чэмпіянату падгаварыць!

## Ветэран санкцый

Старшыня Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларусі Леанід Козік, камэнтуючы чарговае пашырэньне санкцыяў Эўразьвязу ў адносінах да беларускіх уладаў, з пыхлівасьцю заявіў: “Для беларусаў адчынены ўвесь сьвет, як для дзелавых кантактаў, так і для падарожжаў. Асабіста я быў уключаны яшчэ ў самы першы такі сьпіс, і скажу шчыра, што гэта ўжо становіцца хутчэй нагодаю для гонару, чым для нейкіх там хваляваньняў”.

Пры нашай эфэктыўнай зьнешняй палітыцы нагодаў для такога гонару будзе ўсё больш. Толькі вось краінаў, дзе яго можна будзе прадэманстраваць – становіцца ўсё менш.

## “Трасянка” ў дзеяньні

Надпіс на міліцэйскіх футболках скампіляваны з дзьвюх моваў: беларускай –“міліцыя” і расейскай - “милиция”. Відаць, тыя, хто выраблялі гэты тавар, яшчэ не зусім забыліся на родную мову.










“Уключыць” (па расейску- включить) і “Выключыць”

Кіраўнічка Нацыянальнага банку Беларусі прадстаўляе новую беларускую купюру ў 1 млн. рублёў са словамі “Кожны можа стаць мільянерам”.




У інтэрнэце зьявіўся новы «палітык» – Пуцішэнка.






Як сьведчыць надпіс, марожанае для кошак дабраславіў сам мітрапаліт Філарэт.